# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 8 лістапада 1994 года

№ 119 (10819)

Цана 50 руб.


## Уздзенскія навіны

### БУДЗЕ МУЗЕЙ ЭТНАГРАФІІ І ПРЫРОДЫ

На правым беразе Нёмана каля вёскі Наднёман размяшчаўся некалі маёнтак вядомага вучонага Якуба Наркевіча-Ёдкі. Зараз мала чаго засталося ад знакамітага замка з яго вежамі, санаторыем, царквою. Але ўсё ж захаваліся і брама, і паўразбураная вежа-абсерваторыя, і парк з рэдкімі раслінамі.

Па рашэнню ўрада рэспублікі ў былым маёнтку будзе створаны філіял музея прыроды і экалогіі. Нядаўна на пасяджэнні райвыканкома зацверджаны праект рэстаўрацыі маёнтка.

### ШАПКІ «РАСТУЦЬ» НА СВІНАФЕРМЕ

У саўгасе-камбінаце «Белая Русь» яшчэ ў мінулым годзе разам з вытворчасцю свініны заняліся развядзеннем каштоўных пушных звяркоў — нутрый. Зверaферма размясцілася ў адным з пустуючых свінарнікаў. Зараз тут тры сотні звяркоў. Догдядам нутрый, забоем, вырабам шкурак, шыццём шапак займаецца майстар сваёй справы Анатоль Мікалаевіч Ахрэмчык.

Шапкі, выробленыя ва ўласным цэху, каштуюць нядорага і карыстаюцца вялікім попытам у работнікаў камбіната.

Калі ж гаварыць пра фінансавы бок справы, то развядзенне нутрый — занятак выгадны. Аб гэтым лепш за ўсё сведчаць лічбы. Калі летась звераферма дала 500 тысяч рублёў прыбытку, то ўжо за першае паўгоддзе гэтага года — 36 мільёнаў.

Улічваючы шырокі попыт на прадукцыю, вырашана расшырыць цэх па пашыву футравых вырабаў. Акрамя шапак тут будуць шыць яшчэ і футры.

### МОЛАДА — НЕ ЗНАЧЫЦЬ ЗЕЛЕНА

Кожны год шматлікі атрад педагогаў раёна папаўняецца маладымі кадрамі. Не выключэнне і сёлетні. І што прыемна, сярод маладых педагогаў няма здольных, таленавітых людзей. Так, напрыклад, у сярэдняй школе № 2 імя Кандрата Крапівы сёлета пачала сваю працоўную дзейнасць настаўніца малодшых класаў Алена Жук. Яшчэ ў час вучобы ў Нясвіжскім педвучылішчы яна прымала ўдзел у рэспубліканскім конкурсе педагагічнага майстэрства і заняла ганаровае трэцяе месца.

Трэба спадзявацца, што яна пераадолее цяжкасці, якія сустракаюцца на пачатку самастойнага шляху, і стане неўзабаве высакакласным спецыялістам. У добры шлях, Алена!

### ДАПАМАГЛІ І СПОНСАРЫ

Шмат гадоў таму назад у вёсцы Возера была пабудавана ўчастковая бальніца з амбулаторыяй. Для жыхароў навакольных вёсак — Дзешчанкі, Цепленя, Каралёва, Жмакаў, Кармы, самых аддаленых у раёне, гэта было вельмі зручна, не трэба было за медыцынскай дапамогай звяртацца ў Мінск ці Узду.

Аднак час ішоў, памяшканні старэлі. Таму некалькі гадоў назад было прынята рашэнне пабудаваць новую бальніцу. Ды вось бяда: пакуль вырашалі, праекты рабілі — інфляцыя і дарагоўля з"елі выдзеленыя на будаўніцтва грошы.

Летам гэтага года галоўны ўрач Леанід Бутэйка вырашыў адрамантаваць памяшканне ўласнымі сіламі. А дзе ж узяць грошы? Іх па просьбе галоўурача выдзелілі спонсары — эксперыментальная база імя Суворава, малое прадпрыемства «Румб», фірма «Аграбуд», асобныя камерсанты. Завезлі яны сюды і некаторыя будматэрыялы.

Зараз бальніца зззяе чысцінёй і свежай фарбай, кожны кабінет, палата аздоблена з густам і любоўю. Цяпер і медыкам прыемна тут працаваць, і хворым лячыцца.

*Іван СУРМАН.*

**ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ**

■ По чутках і аўтарытэтна

## ТОЛЬКІ ЧУМЫ ЯШЧЭ НЕ ХАПАЛА

***По горадзе на Бярэзіне настойліва распаўсюджваюцца чуткі аб тым, што нібыта на Лошніцкім жывёлагадоўчым комплексе па адкорму 108 тысяч свіней з"явілася вострая інфекцыйная хвароба — чума. А мясцовы штотыднёвік "Борисовские новости" ў невялікай заметцы "Барысаўшчына ачумела" паведамляе, што эпідэмія чумы навалілася не толькі на Лошніцкі комплекс, а распаўсюдзілася таксама на калгасы "Чырвоны навасёлец", "Чырвоная Беларусь" і саўгас "Гвардыя".***

Ці адпавядаюць чуткі рэчаіснасці, а калі так, дык адкуль магла трапіць сюды хвароба, аб якой апошнія дзесяцігоддзі тут ніхто нават і не ўспамінаў? Каб высветліць сітуацыю, карэспандэнт газеты звярнуўся да галоўнага ветэрынарнага ўрача Барысаўскага раёна У.А.Яскевіча.

— На жаль, гэтай вірусанай хваробай сапраўды заражана частка жывёлы саўгаса-камбіната "Барысаўскі", — зазначыў Уладзімір Аляксеевіч. — У мінулым месяцы пры анатаміраванні некаторых жывёлін былі выяўлены прыкметы захворвання, якія пацвердзіліся і пры больш глыбокім лабараторным даследаванні мяса падазроных свіней. Хвароба выяўлена ў парасят з групы дагадоўлі ва ўзросце ад 40 да 60 дзён, якія найбольш адчувальныя да стрэсаў. Ачаг хваробы, у якім на канец мінулага тыдня знаходзілася каля 9,5 тысячы парасят, лакалізаваны. Работнікамі зоаветэрынарнай службы праводзіцца прафілактычная вакцынацыя жывёлы, робяцца анатаміраванне і тэрмаметрыя, арганізаваны штодзённыя клінічныя назіранні за станам жывёлы.

На комплексе ўведзены каранцін. Часова забаронены продаж свініны і жывых парасят на гарадскім рынку. А паколькі на заключным этапе адкорму жывёлы прыкмет захворвання чумой не выяўлена, то ў строга вызначаныя дні, пасля дасканалага кантролю, згодна з графікам комплекс працягвае пастаўляць свіней у жывой вазе на мясакамбінат з абавязковай наступнай дэзінфекцыяй рабочых месц і тэрыторыі.

Вызначыць дакладна крыніцу ўзнікнення чумы на Барысаўшчыне нам пакуль не ўдалося. Магчыма, на мясцовы камбікормавы завод трапіла заражанае зерне ці іншыя дабаўкі, што выкарыстоўваюцца для прыгатавання камбікорму і завозяцца з розных рэгіёнаў былога Саюза, у тым ліку з Расіі і Украіны, дзе ёсць ачагі гэтай хваробы. Не выключана, што хвароба магла развіцца і з вакцыны, якая цяпер не пастаўляецца цэнтралізавана дзяржаўнымі арганізацыямі, а праходзіць праз рукі камерцыйных структур. Дарэчы, вакцына адпраўлена ў Маскву для праверкі ў галіновым інстытуце, і ў хуткім часе нам будуць вядомы вынікі даследавання.

Апошнім часам пасля ўвядзення свінням антыбіётыкаў тэмпература жывёлы зніжаецца. Гэта сведчыць аб тым, што чума паступова адступае. Аднак ветэрынарную службу непакоіць той факт, што на комплексе назіраецца распаўсюджванне іншых захворванняў жывёлы незаразнага характару, а таксама так званых бытавых інфекцый. Эфектыўнасць работы па барацьбе з чумой і іншымі захворваннямі была б значна вышэйшая, калі б адначасова з медыкаментознымі метадамі можна было б падтрымаць аслаблены арганізм жывёлін высакаякаснымі кармамі. Аднак зрабіць гэта практычна немагчыма, таму што якасць камбікармоў вымушае жадаць лепшага. З узятых дваццаці проб камбікорму мясцовага завода палавіна аказалася таксічным. Зразумела, што з-за гэтага пагаршаецца развіццё жывёлы, а аслаблены арганізм хутчэй паддаецца розным захворванням.

Варта засяродзіць увагу яшчэ на адной акалічнасці. Саўгас-камбінат "Барысаўскі" дзейнічае на працягу двух дзесяткаў гадоў. Ён практычна адпрацаваў два вытворчыя цыклы, прадугледжаныя тэхналогіяй, і на добры толк павінен спыніць сваё існаванне. Аднак з-за нашай беднасці працягваецца яго эксплуатацыя з паэтапным аздараўленнем вытворчых памяшканняў. Толькі ў групе дагадоўлі пакуль не было рэзервовых памяшканняў, таму, відаць, жывёла менавіта з гэтай групы і стала самым слабым звяном у агульным ланцугу вытворчасці.

Што датычыць распаўсюджвання эпідэміі чумы на іншыя гаспадаркі раёна, то гэта чыясьці выдумка.

*Гутарыў Мікалай ЧАЛЕЙ.*

### ПЕРШАЯ ПРАДУКЦЫЯ НОВАГА ЦЭХА

Два гады назад у вёсцы Стрыхараўшчына калгас «Нясвіжскі» і саўгас «Буракаводчы» пачалі будаўніцтва цэха па перапрацоўцы мяса. І вось у пачатку кастрычніка ён выдаў першую прадукцыю.

З саўгаса ў цэх паступае ялавічына, а з калгаса — свініна. Выпрацоўваюцца каўбасы, сардэлькі, балыкі, пастрама. Як паведаміў начальнік цэха М.І.Сянько, ужо асвоены выпуск 11 сартоў каўбасных вырабаў і 4 — вэнджаных.

Рэалізуецца прадукцыя праз магазін у вёсцы Навасёлкі. Дарэчы, цэны там памяркоўныя: кілаграм каўбасы «Сходненская» каштуе 5.320, «Эстонская» — 4.290 рублёў. Штодзённа выпускаецца 500 кілаграмаў каўбас, а з пачатку вытворчасці выраблена больш як 10 тон мясной прадукцыі.

Адкрыццё цэха дазволіла не толькі забяспечыць прадуктамі вяскоўцаў, але і выконваць заяўкі Нясвіжскага гархарчпрамгандлю.

*Раіса ХВІР.*
*г.Нясвіж.*

### Старасць не ў радасць

У Клецкім раёне пражываюць амаль 14,3 тысячы пенсіянераў. Каля пяці тысяч з іх атрымліваюць пенсію ў мінімальным памеры і больш як 550 чалавек — ніжэй. Можна толькі ўявіць, як зводзяць яны канцы з канцамі.

*Анатоль ГАЛУБОВІЧ.*



Калгас «Палажэвічы» — адна з перадавых гаспадарак Старадарожскага раёна. Яна спецыялізуецца на вырошчванні агародніны. Сёлета атрыманы добрыя ўраджаі морквы, капусты, рэдзькі чорнай, бульбы. Дзяржаве прададзена 780 тон збожжа пры плане 450 тон. Узначальвае калгас вопытны кіраўнік Міхаіл Васільевіч **ЧАЧУХА** /на здымку/.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

### Пробежал — получи часы

Минский завод «Электроника» выполнил специальный заказ организаторов традиционного космического марафона. Он уже почти двадцать лет проводится в г. Калининграде Московской области, известном на весь мир центре космических исследований. Первая партия заказа — 200 часов — пошла на награждение призеров забегов на 1, 5, 10, 20 и 42 километра. Возраст награжденных — от 5 до 85 лет. Все, кто обогнал своих сверстников, получили на память часы «Электроника» с оригинальным циферблатом. Вверху изображен советский космический корабль многоразового использования «Буран», к созданию которого было причастно и НПО «Интеграл». В левой части циферблата — изображение стартующей ракеты. Вырывающееся из сопла пламя плавно переходит в стилизованное изображение беговой дорожки стадиона, по которой несется серебристая фигура бегуна. Эскиз разработал художник отдела внешнего оформления Виктор Шуленков.

*Вячеслав ИЩЕНКО.*

## А ПЛАЦІЦЬ ТРЭБА

За ўсё. У тым ліку і за членства ў Міжнароднай арганізацыі працы, аб чым і напомніў беларускаму ўраду казначэй і фінансавы кантралёр гэтай арганізацыі А.Ахмад. Наша запазычанасць вылілася ў даволі ўнушальную суму. Яшчэ за 1992 год мы недаплацілі 477.073 швейцарскія франкі. Леташні чысты ўзнос склаў 918.058 франкаў, сёлета павінны аддаць 1.623.455. Усяго ж набягае 3.018.586 швейцарскіх франкаў.

Калі Беларусь не разлічыцца да 31 снежня, то яна, згодна з рэгламентам, страціць права голасу ў Міжнароднай арганізацыі працы. Праўда, ёсць надзея, што канферэнцыя большасцю ў дзве трэці галасоў можа дазволіць нам галасаваць пры ўмове прызнання прычыны нявыплаты ўзносаў па абставінах, якія не залежаць ад нас.

Трывожны сімптом! Трэба мець на ўвазе, што падобныя ўзносы наш урад павінен пералічваць і ў іншыя міжнародныя арганізацыі, членам якіх ён з"яўляецца ці збіраецца стаць.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*





**Служба 02**

## ОПЕРАЦИЯ "ПРАВОПОРЯДОК"

Работники семи ГО РОВД области не вылезали из засад, проводили ночное патрулирование всю неделю. Повод? Не дают покоя хищения скота, кражи из магазинов. Особенно в Борисове и области, Березинском, Крупском, Логойском, Смолевичском районах, Жодино.

1.245 сотрудников милиции участвовали в операции "Правопорядок". Подключились несколько сот общественников. Было задействовано 329 единиц автотранспорта. Общими усилиями пресечено 60 преступлений. Например, сотрудники Крупского РОВД выявили два факта хищения сельхозпродукции, а по трем возбуждены уголовные дела. Установлена личность преступника, совершившего серию краж из магазинов. Раскрыто пять преступлений. Смолевичской милиции удалось вернуть совхозу "Петровичи" 400 килограммов капусты, украденной с совхозного поля. А стражи порядка в Борисове пресекли попытку вывоза партии эмалированной посуды с завода "Красный металлист" на 440 тысяч рублей.

Милиция и общественность побывали не только на ферме, у магазина, на колхозном поле. Отстранены от управления 72 нетрезвых водителя. Установлено 27 нарушений правил торговли и 4 факта валютных операций. Выявлены 32 самогонщика, задержаны 700 пьяных.

*Виктор БЫКОВ,*
*пресс–служба УВД облисполкома.*

■ Актуальнае інтэрв"ю

# Курэй і трактары за газ не прапаноўваць

***Штогод з надыходам зімы рэзка павялічваецца выдаткаванне газу. Ці будуць поўнасцю забяспечаны ім усе спажыўцы? З такога пытання пачалася гутарка нашага карэспандэнта з начальнікам службы рэжымаў і ўліку газу абласнога вытворчага аб"яднання "Мінскаблгаз" Л.І.ГАТАЎЦОМ.***

— Што датычыць насельніцтва, дык яно няхай не хвалюецца, — адказаў Леанід Іосіфавіч, — яго забяспечым у першую чаргу. Не застануцца без блакітнага паліва і бальніцы, дзіцячыя сады, школы, іншыя спецыяльныя ўстановы. Газ патрэбны прамысловасці, сельскай гаспадарцы, іншым галінам вытворчасці. Такіх спажыўцоў у вобласці каля 150. Многія з іх увязлі ў даўгах. Некаторым мы ўжо адмовілі ў пастаўцы гэтага паліва. Згодна з указам прэзідэнта аб разліках спажыўцоў за энерганосьбіты, нашы кліенты павінны забяспечваць папярэднюю аплату газу ў аб"ёме пяцідзённага яго расходу. Калі хто не плаціць — мы павінны адключаць іх. Але ж не пакінеш без газу, напрыклад, такога даўжніка, як саўгас-камбінат «Барысаўскі», які гадуе дзесяткі тысяч парасят. Спыні падачу паліва — узімку недалічымся свініны. Злачынствам было б таксама адмовіць Барысаўскаму хлебазаводу, парніковацяплічнаму камбінату калгаса імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна.

Нас жа больш за ўсё турбуюць прадпрыемствы і гаспадаркі, якія не разлічваюцца доўгі час. У прыватнасці, калектывы Міністэрства паліва і энергетыкі. На 26 кастрычніка іх доўг складаў 3.180 мільёнаў расійскіх рублёў. Барысаўская кацельня запазычылася 2.225 мільёнаў, Жодзінская ЦЭЦ — 955. Шмат прэтэнзій маем да Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання — доўг складае 2.444,9 мільёна расійскіх рублёў. Больш за ўсіх тут завінаваціліся цукровыя заводы ў Слуцку і Гарадзеі — адпаведна 727,3 і 609,7 мільёна.

Сярод даўжнікоў таксама дзесяткі калгасаў і саўгасаў. У цэлым жа па вобласці агульная запазычанасць па стану на 26 кастрычніка — 24.437 мільёнаў расійскіх рублёў.

***— Ці спыняеце вы падачу газу ўсім буйным даўжнікам?***

— Робім гэта ў крайніх выпадках, з улікам неплацяжоў за бягучае спажыванне паліва.

***— І каму вы яго ўжо не пастаўляеце?***

— Па стану на 26 кастрычніка засталіся без паліва Нясвіжская швейная фабрыка, Дзяржынскі льнозавод, рыбгас «Волма» Чэрвеньскага раёна, некаторыя калгасы і саўгасы...

***— Зразумела, кіраўнікам такіх прадпрыемстваў не пазайздросціш. Ці не маглі б вы ім нешта параіць?***

— Усё тут залежыць ад рэалізацыі прадукцыі. Трэба больш актыўна шукаць рынкі збыту. Возьмем Фаніпальскую бройлерную фабрыку. У верасні яна завінавацілася нам буйную суму. Сёння ж разлічылася і нават заплаціла наперад. Спытаеце — адкуль грошы? Зразумела, не з неба зваліліся. Таму не трэба сядзець склаўшы рукі.

***— Сёння некаторыя прадпрыемствы разлічваюцца паміж сабой гатовай прадукцыяй. Ці не прапаноўвалі і вам падобны варыянт аплаты?***

— Было і такое. Нядаўна патэлефанавалі са Смалявіцкай птушкафабрыкі. Грошай у прадпрыемства няма, і таму прапаноўвалі замест іх узяць курэй — балазе імі забіты ўсе халадзільнікі. Стаўбцоўскі маторны завод у свой час хацеў разлічыцца з намі трактарамі. Сваю прадукцыю прапаноўвалі і іншыя ўстановы. Але мы — не гандлёвая арганізацыя, купляй-продажам не займаемся.

***— Леанід Іосіфавіч, мабыць, варта было б падумаць накопт "куплю-прадам"? Мелі б нейкі прыбытак, і прадпрыемствам не трэба было б ламаць галаву, дзе ўзяць грошы. Як-ніяк, камерцыя...***

— Не так гэта лёгка, як здаецца. У нас няма людзей, каб спецыяльна займацца такой справай. Тут і сродкі патрэбны, і адпаведны вопыт. Пытанняў, як кажуць, шмат. Атрымаем мы, напрыклад, тыя ж трактары, а што з імі далей рабіць? Каму прадаць? Таму адзіны спосаб разлікаў — грошы (расійскія рублі, беларускія «зайцы», з нядаўняга часу і СКВ).

***— А ці ў дастатковай колькасці паступае ў вобласць блакітнага паліва?***

— Сёлета Міншчына атрымлівае з Расіі 74,5 працэнта ад заяўленай спажыўцамі колькасці прыроднага газу. Майце на ўвазе, што кожная ўстанова на ўсякі выпадак імкнецца заказаць яго крыху больш, чым патрэбна. Таму лічу, што газу хопіць усім.

***— Якія ж перспектывы развіцця газавай сеткі ў Мінскай вобласці?***

— Шмат гарадоў тут карыстаюцца выключна звадкаваным газам. Гэта выклікае пэўныя цяжкасці. Таму ў 1995 годзе на прыроднае паліва плануецца перавесці жыхароў Маладзечна, Слуцка, Капыля, Клецка. Адначасова «Мінскаблгаз» вядзе работу па пераводу жылых дамоў са звадкаванага газу на прыродны ў тых гарадах, дзе ён ужо ёсць, але яшчэ не дайшоў да ўсіх спажыўцоў.

А ў заканчэнне нашай гутаркі хацеў бы пажадаць усім: эканомна расходуйце паліва. Гэта вельмі каштоўнае багацце. Невыпадкова яно такое дарагое — 198.650 расійскіх рублёў за 1 тысячу кубічных метраў для прадпрыемстваў. Насельніцтва ж пакуль што плаціць 27,5 тысячы беларускіх «зайчыкаў» за такую ж колькасць (каля 7 працэнтаў ад фактычнага кошту газу).

Карыстаючыся выпадкам, хацелася б нагадаць нашым спажыўцам, што аб"ёмы паставак газу ў 1995 годзе ў рэспубліку і вобласць будуць прама залежаць ад узроўню аплаты паліва за сёлетні год і пагашэння дапушчанай запазычанасці. Нельга выключыць і такі момант: падача газу з Расіі можа быць скарочана па гэтых прычынах і ў лістападзе-снежні.

І яшчэ адна парада — выконваць патрабаванні тэхнікі бяспекі, каб не было ў нас надзвычайных здарэнняў.

*Аляксандр ГРАДЗЮШКА,*
*студэнт факультэта журналістыкі БДУ.*

■ АПК і рынак

# ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ

## знаходзіцца сёння наша фермерства

**Фермерская гаспадарка з крыху дзіўнай назвай "Макс", пра якую збіраюся расказаць, створана на тэрыторыі калгаса "Перамога" Пухавіцкага раёна вясной 1992 года. У яе распараджэнні 10 гектараў зямлі, трактар, ёсць сёе-тое з сельгасмашын. Фермер Уладзімір Шабан з жонкай Надзеяй займаюцца земляробствам і жывёлагадоўляй. Сёлета вырошчвалі 4 гектары ячменю, 2 — бульбы. Па гектару займалі авёс і лён. Астатняя плошча — пад сенажаццю. Трымаюць 6 кароў, 15 свіней. І разам з тым — працуюць настаўнікамі ў мясцовай Азярычынскай школе.**

Сустрэліся з Уладзімірам каля хаты: ён толькі-толькі вярнуўся з ільнозавода, што ў райцэнтры, — вазіў трасту.

— Стаіць бабіна лета. Спяшаюся ўзняць лянок са сцелішча, рэалізаваць. Каля 6 тон будзе, — сказаў гаспадар і запрасіў у хату.

Фермерская гаспадарка У.Шабана — адзіная з 42 зарэгістраваных у раёне — займаецца вырошчваннем ільну. Уладзімір не здрадзіў традыцыі тутэйшых земляробаў, якія заўсёды ўмелі і любілі вырошчваць гэтую тэхнічную культуру. "Сямейная бухгалтэрыя" сведчыць, што калі ўся траста пойдзе нумарам 1,1 — 1,25, то на рахунак фермера пастуціць больш як 2 мільёны рублёў.

Праўда, сваёй тэхнікі для цераблення льну Уладзімір не мае. Летась для гэтай справы наймаў жанчын. Сёлета выручыла старшыня мясцовага калгаса Т.С.Дубавец, прадаставіўшы ў яго распараджэнне церабільную машыну, за арэнду якой, вядома, давядзецца плаціць, хаця працаваў сам на сваім трактары.

Дарэчы, з кіраўніком калгаса ў фермера дзелавыя сувязі. Тамара Сцяпанаўна ніколі не адмовіць у просьбе, калі ёсць магчымасць. Сёлета, напрыклад, у калгасе здарылася "запарка" з уборкай збажыны. А тут і Уладзіміру трэба малаціць ячмень. Не выйшла. Але не пакрыўдзіўся фермер, знайшоў камбайн у дапаможнай гаспадарцы таварыства з абмежаванай адказнасцю "Паліфакт". Заплаціў камбайнеру. А за работу машыны адпрацаваў — узараў дапаможнай гаспадарцы 5 гектараў. Так што выйсце можна знайсці.

А вось з рэалізацыяй збожжа выручыла Тамара Сцяпанаўна. Атрымалася так: павёз яго на камбінат хлебапрадуктаў. А там далі "ад варот паварот": няма сертыфіката, (у свой час не адправіў у Сенніцу ўзоры збожжа на аналіз). Давялося ісці на паклон да старшыні калгаса. Калгас купіў зерне. Праўда, мінула ўжо больш месяца, але пакуль што гаспадарка не пералічыла на яго рахунак грошы.

Многія папракаюць фермераў за нізкую культуру земляробства, за тое, што яны не клапоцяцца аб павышэнні ўрадлівасці зямлі. Але гэтага ніяк не скажаш пра Шабана. З дапамогай спецыялістаў ён строга прытрымліваецца дыферэнцыраваных доз унясення ў глебу арганічных і мінеральных угнаенняў. Арганікі ў дастатку. Ёсць і запас тукаў. Уладзімір укараніў на сваёй зямлі пяціпольны севазварот. Праўда, вясной на пэўнай плошчы затрымліваецца апрацоўка глебы, якая падтопліваецца талай вадой. Менавіта па гэтай прычыне фермер не сее азімыя культуры: рызыкоўна.

— Крыўдна становіцца, калі часам чую, што, маўляў, фермеры не накормяць народ, — зазначае Уладзімір. — Факты? Калі ласка. Кожны гектар ячменю ў мяне даў па 40 цэнтнераў, авёс — па 42, бульба — па 150, у той час як у калгасе ўраджайнасць збажыны склала 24, бульбяны палетак даў па 71 цэнтнеру клубняў.

У фермера ёсць і іншыя довады. Самая прадуктыўная карова з яго статка летам давала па 25 кілаграмаў малака ў суткі, самая нізкаўдойная — па 14. І цяпер сярэдні надой складае 12 кілаграмаў. Ды і тлустасць малака — 3,6-4 працэнты. "А навошта мне, на сям"ю з 4 чалавек, столькі малака?" — пытаецца фермер. Праўда, калі зайшла размова пра рэалізацыю прадукцыі, паўстала праблема. З малаком увогуле няма непаразуменняў: летам калгасу штомесяц здаваў па 1,5 тоны, забяспечваў дзіцячы сад, часткова — школу. Пастаянна купляюць некалькі вяскоўцаў, калі-нікалі — дачнікі. Але закупачная цана, што вызначаецца праз калгас, не задавальняе фермера: ніякага прыбытку не прыносіць.

Яшчэ горш ідуць справы з рэалізацыяй мяса. Сёння сям"я адразу можа прадаць 900 кілаграмаў свініны і 1.200 кілаграмаў ялавічыны. Днём і ноччу баліць галава ў фермера, куды збыць яго. Дзяржаве? Ніякай выгады, адны страты. Выкінуць на кірмаш ці стаць на скрыжаванні вуліц у Мінску — часу не стае (Уладзіміру шэсць разоў на тыдзень трэба па 5 гадзін выкладаць у школе). Вось і даводзіцца ісці на дадатковыя выдаткі, ператрымліваць жывёлу на адкорме.

Паўстане праблема і з рэалізацыяй 20 тон бульбы. Гэта — вынік бязглуздай палітыкі цэн на сельгаспрадукцыю. Практычна ніякай падтрымкі ад дзяржавы фермер не меў. За выключэннем 45 тысяч рублёў на тэлефанізацыю. Крэдыт атрымліваў. А яго ж трэба вярнуць з працэнтамі, строга ў тэрмін. Інакш пені столькі накруцяць, што не да жартаў будзе. Грошы з кожным днём абясцэньваюцца. За здадзеную летась ільнопрадукцыю атрымаў столькі, што здолеў купіць усяго толькі... 200 кілаграмаў дызельнага паліва: ільнозавод своечасова не разлічыўся, "зайчыкі" абясцэніліся. Вось і адказ на пытанне, ці можа фермер пракарміць некалькі чалавек.

— Знаходзімся ў прамым сэнсе слова паміж небам і зямлёй, — уступае ў размову жонка Уладзіміра Надзея. (Яна ў фермера і першы памочнік, і эканаміст, і бухгалтар, і даярка, і рабочая. Праўда, цяпер у іх па найму працуе адзін чалавек. Яго заробак у месяц складае 50 — 70 тысяч (у залежнасці ад занятасці), ён забяспечаны трохразовым бясплатным харчаваннем).

У фермера — двое дзяцей. Анютка пайшла ў 1-ы клас, Максімка — выхаванец дзіцячага садзіка. Сваёй працай бацькі хочуць забяспечыць ім будучыню. А вось ці ўдасца? Пакуль што фермерская гаспадарка не аплачвае іх працу. Менавіта па гэтай прычыне не спяшаецца развітвацца з прафесіяй настаўніка Уладзімір Шабан, таму што ў адзін момант можа застацца беспрацоўным.

*Мікола ГРЫГАРОВІЧ.*



*Пасля заканчэння васьмігодкі Марыя Ліпай прыйшла працаваць цялятніцай на ферму роднай вёскі Мелкавічы, што ў Салігорскім раёне, два гады аддала рабоце жывёлавода. Затым паступіла на аддзяленне ветэрынарыі ў Смілавіцкі сельгастэхнікум. Хутка праляцелі чатыры гады вучобы. І вось вясной 1968 года М.Ліпай атрымала дыплом і спецыяльнасць ветфельчара, пасля чаго дзяўчыну накіроўваюць на работу ў калгас "Уздзенскі" Уздзенскага раёна.*

*Сваімі бездакорнымі адносінамі да працы яна заслужыла павагу і аўтарытэт сярод кіраўніцтва гаспадаркі, вяскоўцаў. І зноў не спыняецца на дасягнутым: паступае на вучобу ў Віцебскі ветэрынарны інстытут, які закончыла сёлета. Некалькі апошніх гадоў з"яўляецца галоўным ветэрынарным урачом гаспадаркі. Гэты давер Марыя Іванаўна Ліпай поўнасцю апраўдвае.*

*Мінула 25 гадоў, як прыйшла працаваць у гаспадарку. Нягледзячы на цяжкасці, у яе хапае часу, пабываць на кожнай ферме, дапамагчы вяскоўцам у лячэнні свойскай жывёлы. Не хапае бензіну, каб аператыўна пабываць на спецмашыне ў тым ці іншым населеным пункце. Адначак выручае ўласны веласіпед, з якім яна не расстаецца.*

**На здымку: М.І.Ліпай.**

*Фота Міхаіла БУЛАТА.*

## Навіны адным абзацам

**Да двухтысячнага года ў кожнай гомельскай кватэры павінны дзейнічаць прыборы ўліку расходу газу, вады і цеплавой энергіі. Такую задачу ставіць перад адпаведнымі службамі гарвыканкам. А інстытутамі "Гомельграмадзянпраект" і "Гомельпраект" ужо ў чацвёртым квартале бягучага года рэкамендавана закладваць іх у праектна-каштарысную дакументацыю дамоў і будынкаў, якія ўзводзяцца, рэканструююцца і капітальна рамантуюцца.**

* * *

Манаполія на права правядзення міжнародных фестываляў сучаснай харэаграфіі аддадзена Віцебску. Восьмы раз горад на Дзвіне прыме майстроў гэтага жанру і яго паклоннікаў. Свята адкрыцца адбудзецца 15 лістапада. Галоўнай падзеяй абяцае стаць беларуская нацыянальная праграма,

* * *

**Вельмі мірную арыентацыю ўзяў ваенны гарадок Барсукі, размешчаны ў Клімавіцкім раёне. Пасля таго, як яго тэрыторыю пакінула расійская авіячасць, магілёўскае вытворчае прадпрыемства "Кварк" узяло тут у арэнду пустуючыя памяшканні і адкрыла ў іх швейны цэх. Работу атрымалі некалькі дзесяткаў жыхароў гарадка, якія засталіся без справы. Падрыхтаваны да пуску яшчэ адзін цэх — па перапрацоўцы бульбы.**

* * *

Выконваючы ўказ прэзідэнта, Брэсцкі аблвыканком скараціў штат работнікаў на 171 адзінку. Цяпер у яго ўпраўленнях, аддзелах і камітэтах засталося працаваць 76 чалавек. Аблвыканком абавязаў кіраўнікоў падраздзяленняў прыняць меры для працаўладкавання звольненых работнікаў.

* * *

**Не ведала яшчэ такога "гарэлачнага нашэсця" станцыя Брэст-Паўночны, дзе арганізаваны перавалачныя работы ў сувязі з рознымі размерамі чыгуначнай каляі на Захадзе і ў нас. Калі раней у гэты час асноўныя клопаты былі звязаны з транзітам бульбы, то цяпер з-за мяжы ў вялікай колькасці хлынула гарэлка. Штодзённа яе прыходзіць сюды да трыццаці вагонаў. Пасля перагрузкі поезда вязуць гэты напітак нашым усходнім суседзям. Уражанне такое, што ўсе расійскія лікёра-гарэлачныя заводы спыніліся.**

* * *

Першую прадукцыю выдала сумеснае беларуска-грэка-італьянскае прадпрыемства "Праталіна", якое створана на базе вядомага ў рэспубліцы калектыўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства "Прагрэс" Гродзенскага раёна і некалькіх замежных фірм. Гэта — футравыя шапкі, футры і курткі з норак, якіх гадуюць на звераферме гаспадаркі. Акрамя сыравіны, яно прадаставіла вытворчае памяшканне, рабочую сілу. Замежныя фірмы ўзялі на сябе пастаўку і мантаж асноўнага тэхналагічнага абсталявання, абучэнне кадраў. У гаспадарцы працуюць таксама невялікая мэблевая фабрыка, каўбасны і сокавы цэхі, малочны і хлебапякарны міні-заводы, іншыя падсобныя прадпрыемствы. На іх долю прыпадае прыкладна трэць прыбытку, што атрымліваюць прагрэсаўцы.

*БЕЛІНФАРМ.*

# НА СУМНАЙ НОЦЕ

## падводзяцца вынікі работы народнай гаспадаркі вобласці за студзень-верасень 1994 года

СТАТЫСТЫКА ведае ўсё. Адзінае, што ёй не пад сілу, — прадставіць нам добрыя эканамічныя паказчыкі работы народнай гаспадаркі вобласці. Вось і сёлета за дзевяць месяцаў становішча не палепшылася. Зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці характэрна практычна для ўсіх яе галін.

У прамысловасці яно склала 10,5 працэнта супраць адпаведнага перыяду мінулага года. Скарацілі выпуск прадукцыі 185 прадпрыемстваў — 67,8 працэнта ад агульнай колькасці. Яе недададзена на 90,5 мільярда рублёў.

Яшчэ большае падзенне аб'ёмаў у такіх яе галінах, як нафтахімічная — на 34,9 працэнта, машынабудаўнічая — на 33,4, будматэрыялаў — на 33,4, лёгкая — на 33, лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая — на 19,8 працэнта.

У параўнанні з трыма кварталамі мінулага года значна скараціўся выпуск аўтамабіляў, металарэзных станкоў, паперы, кардону, канструкцый і вырабаў са зборнага жалезабетону і г.д. У тым ліку і тавараў народнага спажывання — на 14,6 працэнта, а ў верасні ў параўнанні з леташнім вераснем — на 27,7 працэнта. Гэта і фотаапараты, радыёпрыёмнікі, мэбля, пасуда, трыкатажныя і швейныя вырабы, скураны абутак, тканіна і г.д.

Прадуктаў харчавання мы атрымалі на 7,8 працэнта менш. У прыватнасці, вытворчасць макаронаў скарацілася на 30,2 працэнта, кандытарскіх вырабаў — на 23,9, каўбасных — на 21,2, мукі — на 19,5, хлеба і хлебабулачных вырабаў — на 14,6, мяса — на 10,1 працэнта.

Моцна кульгае і капітальнае будаўніцтва. Прадпрыемствы і арганізацыі ўсіх форм уласнасці ўвялі ў дзеянне асноўных фондаў 35 працэнтаў да гадавога плана. Асвоена 205,3 мільярда рублёў капітальных укладанняў — 67 працэнтаў гадавога ліміту. З іх за кошт дзяржаўных цэнтралізаваных сродкаў з рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў і інвестыцыйных фондаў — 91,4 мільярда рублёў, ці на 63 працэнты. Іх доля ў агульным аб'ёме капукладанняў за кошт усіх крыніц фінансавання склала 45 працэнтаў.

На рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне дзяржаўных прадпрыемстваў выкарыстана 36,1 мільярда рублёў — 81 працэнт ліміту.

Для ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі выдзелена на сёлетні год 23,9 мільярда рублёў дзяржаўных капукладанняў, у тым ліку на будаўніча-мантажныя работы — 18,8 мільярда. Фактычна ж за тры кварталы асвоена адпаведна 13,5 і 10,6 мільярда рублёў (56 працэнтаў). За кошт чарнобыльскіх сродкаў на тэрыторыі вобласці намечана здаць 346 кватэр і жылых дамоў сядзібнага тыпу, шэраг аб'ектаў камунальнай гаспадаркі, сацыяльна-культурнага і бытавога прызначэння. Фактычна за тры кварталы ўведзена 151 кватэра, а таксама клуб на 300 месц у саўгасе "Селішча" Лагойскага раёна, санаторый на 90 ложкаў у Астрашыцкім Гарадку Мінскага раёна, 7,3 кіламетра сетак газіфікацыі і 1,2 — водазабеспячэння.

На развіццё аграпрамысловага комплексу прадугледжваецца выкарыстаць сёлета (за кошт усіх крыніц фінансавання) 106,9 мільярда рублёў капітальных укладанняў. З іх на будаўніцтва аб'ектаў вытворчага прызначэння — 69,1 мільярда. За тры кварталы выкарысталі 68,4 мільярда рублёў, у тым ліку на аб'ектах вытворчага прызначэння — 47,1 мільярда.

Як бачым, нездавальняюча працавалі будаўніча-мантажныя арганізацыі ўсіх форм уласнасці. Яны выканалі дагаворы падрадных работ на 169,9 мільярда рублёў, ці на 78 працэнтаў, у тым ліку на аб'ектах аграпрамысловага комплексу — на 28,2 мільярда (79 працэнтаў). Да таго ж аб'ём падрадных работ, выкананых уласнымі сіламі, зменшыўся ў параўнанні са студзенем-вераснем 1993 года (у супастаўных цэнах на 1 студзеня 1991 г.) на 25 працэнтаў.

Аналагічнае становішча і ў работнікаў транспарту. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года перавозкі грузаў чыгункай за тры кварталы скараціліся на 33,3 працэнта, аўтамабілямі — на 31,1. Пасажыраабарот транспарту агульнага карыстання аказаўся на 19,1 працэнта меншы, чым за студзень-верасень мінулага года.

Прадпрыемствы сувязі атрымалі даходаў ад сваёй асноўнай дзейнасці ў 14,2 раза больш (у фактычных цэнах), чым летась.

А як справы ў аграпрамысловым комплексе?

Калгасы і саўгасы вобласці завяршаюць уборку. На 24 кастрычніка валавы збор збожжавых і зернебабовых культур склаў 1.397,8 тысячы тон (1993 г. — 1.762,9), ці па 27,9 цэнтнера з гектара супраць 34,8 — летась.

Бульбы накапана 347,4 тысячы тон — на 53 працэнты менш леташняга. Атрымана па 98 цэнтнераў з гектара (1993 г. — 156).

Убрана 3 тысячы гектараў агароднiны — 73 працэнты плошчаў пры ўраджайнасці 144 цэнтнеры з гектара, цукровых буракоў — 17,6 тысячы гектараў (96 працэнтаў) і 153 цэнтнеры (234), кармавых караняплодаў — 21,5 тысячы гектараў (94) і 278 цэнтнераў (384).

Што датычыць жывёлагадоўлі і вытворчасці мяса — глядзіце "Мінскую праўду" за 20 кастрычніка.

Нічога суцяшальнага на спажывецкім рынку і ў сферы паслуг. Агульны аб'ём рознічнага тавараабароту зменшыўся (у супастаўных цэнах) на 37,8 працэнта. Гандаль атрымаў мяса і мясапрадуктаў на 10.280 тон (на 32,4 працэнта) менш, чым за тры кварталы летась, малака і малочных прадуктаў — на 45.094 тоны (15,7), рыбы — на 1.130 тон (68,8), рыбных кансерваў — на 1.073 тысячы ўмоўных бляшанак (73,2), маянэзу — на 497 тон (58,3), маргарыну — на 589 тон (34,8), цукру — на 4.716 тон (30), макаронных вырабаў — на 2.153 тоны (31,5). І нават гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў — на 349,1 тысячы дэкалітраў (20,2 працэнта) менш.

Не палепшылася становішча і з забеспячэннем насельніцтва мукой. Яе расход па рыначнаму фонду скараціўся: вышэйшага гатунку — на 9,1 тысячы тон (16,6 працэнта), першага — на 10,2 тысячы тон (24,3).

Прададзена 6,3 тысячы тон бульбы — на 15 працэнтаў менш, чым за тры кварталы летась, агародніны — 8,1 тысячы тон (33).

Гандлёвыя арганізацыі атрымалі значна менш і нехарчовых тавараў.

Аб'ём платных паслуг у супастаўных цэнах, згодна з індэксам рознічных цэн, скараціўся на 57 працэнтаў, бытавых — на 19.

Пры такіх эканамічных паказчыках няма чаго гаварыць аб расшырэнні аб'ёмаў экспарту. Хаця ён і ажыццяўляўся больш чым у 50 замежных краін (уключаючы Прыбалтыку), аднак вывозілі ў асноўным сыравіну і матэрыялы. У таварнай структуры экспартных паставак іх доля складае 85,4 працэнта, а вось прадукцыі машынабудавання — толькі 6,3. Замежным спажыўцам адпраўлена 2.292 тысячы тон калійных угнаенняў, 21 тысяча кубічных метраў дзелавой драўніны, 2,5 тысячы тон ільноволакна. А тавараў народнага спажывання — на 10,6 мільярда рублёў (8,3 працэнта) пры агульнай выручцы за экспарт 128,9 мільярда (ва ўнутраных цэнах).

Падзенне аб'ёмаў вытворчасці непазбежна вядзе да скарачэння кадраў у народнай гаспадарцы вобласці. Колькасць рабочых і служачых (без сумяшчальнікаў, работнікаў кааператываў, малых і сумесных прадпрыемстваў) зменшылася за дзевяць месяцаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 3,7 працэнта. І найбольш — у арганізацыях інфармацыйна-вылічальнага абслугоўвання (на 29,1 працэнта), невытворчай сферы бытавога абслугоўвання насельніцтва (19,9), мастацтва (18,2), будаўніцтва (7,7), прамысловасці (6).

Прыватызацыя. З 1989 года па верасень сёлетняга ва ўласнасць жыхарам вобласці перайшло 66,6 тысячы кватэр. За студзень-верасень прыватызавана 18,8 тысячы кватэр, што складае 10,2 працэнта ад агульнай колькасці кватэр дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду на пачатак года. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць прыватызаваных кватэр узрасла на 15,5 працэнта. У верасні іх прыватызавана 1,6 тысячы — на 23,8 працэнта больш, чым у жніўні.

Ацэначны кошт прыватызаваных за тры кварталы кватэр склаў 89,6 мільёна рублёў. З іх 16,5 мільёна пагашана жыллёвай квотай і 56 мільёнаў рублёў даплачана грамадзянамі. Сярэдняя цана адной прыватызаванай кватэры склала 4,8 тысячы рублёў, аднаго квадратнага метра — 91 рубель.

За студзень-верасень жыллёвая квота налічана 81,9 тысячы чалавек на суму 26,8 мільёна рублёў — у сярэднім 327 рублёў на аднаго чалавека. Атрымалі ж прыватызацыйныя чэкі "Жыллё" 21,8 тысячы грамадзян на агульную суму 14,9 мільёна рублёў.

На жаль, расказ аб сацыяльна-эканамічным становішчы Мiншчыны даводзіцца заканчваць на сумнай ноце. І асабліва засмучае натуральны рух насельніцтва. За дзевяць месяцаў у цэлым па вобласці нарадзілася 13.085 чалавек, а памерла — 17.102, ці на 30,7 працэнта больш. Натуральны прырост насельніцтва адзначаны толькі ў 29 гарадскіх пасёлках з 42-х і склаў 1606 чалавек. У вёсцы ж колькасць памёршых перавысіла колькасць нованароджаных у 1,9 раза. Калі справа так пойдзе і далей, то перспектыва даволі змрочная — хто ж там застанецца жыць? Больш за ўсё памірае людзей ад хвароб сістэмы кровазвароту (амаль палавіна), злаякасных наваўтварэнняў, захворванняў органаў дыхання.

Вобласць працягвае прыём людзей з забруджанай радыяцыяй тэрыторыі рэспублікі. За дзевяць месяцаў да нас пераехала 191 сям'я — 575 чалавек. Прыбыўшым выдзелена 189 кватэр. Найбольш іх прынята ў Маладзечне, Маладзечанскім, Уздзенскім і Старадарожскім раёнах.

■ Набалела!

# АДГУКНІСЯ, РОДНАЕ СЛОВА!

У рэспубліцы прыняты Закон аб мовах, у якім сказана, што дзяржаўнай з"яўляецца беларуская, што справаводства павінна весціся на гэтай мове. Але справа рухаецца марудна. Нават уладныя структуры — міністэрствы, ведамствы, выканкомы розных узроўняў — па-ранейшаму аддаюць перавагу рускай мове. Ні ў адной краіне свету органы вярхоўнай улады не працуюць на іншай мове. Такое, на вялікі жаль, сустрэнеш толькі ў нас.

Высокая духоўнасць чалавека патрабуе ведання мовы свайго народа ці народа, на тэрыторыі якога ён жыве. Гэта — аксіёма, інакш немагчыма.

У канцы пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых гадоў я праходзіў вайсковую службу ў Эстоніі. Невялікая рэспубліка. Здавалася б, навошта мне яе нацыянальная мова? Тым больш што не збіраўся там заставацца жыць пасля звальнення ў запас. І ўсё ж я амаль самастойна вывучыў эстонскую мову. Праўда, дапамагаў адзін эстонец, які служыў на нашай пагранзаставе. За што я ўдзячны гэтаму чалавеку, бо і цяпер, калі выпадкова сустракаюся з жыхарамі Эстоніі, размаўляю па-эстонску. Такім жа шляхам вывучыў татарскую і армянскую мовы. За 30 гадоў нічога не забыў.

Таму мяне вельмі абурае сітуацыя, якая склалася з беларускай мовай. Калі ж нарэшце мы авалодаем гэтым нацыянальным скарбам? Засмучае ўпартае нежаданне некаторых газет і часопісаў вярнуцца да мовы зямлі, якая дала ім жыццё. Кожны, хто нарадзіўся ў Беларусі, хто тут жыве і працуе, павінен ведаць родную мову. Дарэчы, не толькі ведаць, а і актыўна змагацца за яе чысціню, бо ў эфіры, у друку, на экранах, у тэатрах шмат непісьменнасці, засмечанасці, калечання нашай прыгожай, мілагучнай мовы.

*Мікола ВЯРШЫНІН,*
*вядучы інжынер НВА "Прагрэс".*
*г.Мінск.*

■ Ідэя, пошук, прадпрымальніцтва

# "ВЕРА" — У НАДЗЕІ НА БУДУЧАЕ

У ВАС зайздроснікаў многа?

— Дакладна не ведаю. Але што такія ёсць — не сумняваюся.

Аляксандр Карасцялёў, у недалёкім мінулым галоўны інжынер упраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкома, сёння — кіраўнік малога прадпрыемства «Вера» ў Вілейцы, дэманструе сваю немалую, на маё разуменне, гаспадарку. Без зайздрасці, але са зразумелай чалавечай дапытлівасцю аглядаю акуратны кавалачак зямлі плошчай два гектары, дзе кампактна размясцілася шматпрофільная гаспадарка малога прадпрыемства. Будзем так гаварыць, схітрыў Аляксандр Захаравіч, калі рэгістраваў сваю «Веру». У профіль дзейнасці, як асноўны занятак, закладзена вырошчванне лекавых траў. З цягам часу ўзнікла задума зрабіць «вытворчае поле» фірмы больш разнастайным, а даходы — надзейнымі. Справа ў тым, што травы, якой бы высокагуманнай мэце яны ні служылі, на рынку вельмі танны тавар. А клопату з імі шмат. Каб атрымаць сапраўдную лекава-тэхнічную сыравіну, трэба строга захоўваць тэхналогію вырошчвання і асабліва сушкі. Але нават калі травы вырашчаны ды высушаны, не так проста іх збыць: то цэны не пакрываюць затрат, то аб"ём партыі не задавальняе спажыўца. Думаецца, чытачу не ў навіну цудадзейныя ўласцівасці каляндулы, якую ў народзе называюць наготкамі. А між тым на складзе малога прадпрыемства «Вера» знаходзіцца сёння 120 кілаграмаў гэтай лекавай травы. Ёсць тут і кмен, і высушаныя плады шыпшыны, кветкі бяссмертніку...

Але галоўнае, чым можа пахваліцца сёння «Вера», — гэта вытворчасць сталярных вырабаў. Два цэхі — дрэваапрацоўчы і сталярны — выраслі на кавалку зямлі, адведзеным у карыстанне малому прадпрыемству. Выраслі, як кажуць, на голым месцы, сярод сасновага лесу, дзе цяпер спорна вылазяць, як восеньскія грыбы-радоўкі, дахі дач-церамкоў. Белавароцкай назвалі гэтую прыгарадную мясціну віляйчане. Невялічкі ручай-рачулка робіць на ёй паўкола на ўцеху аматарам-агароднікам. Аляксандр Захаравіч марыць на прылеглым да сваіх угоддзяў рукаве паставіць аўтаномную электрастанцыю.

У прадпрымальнікаў — свае сакрэты, якімі яны не дужа ахвотна дзеляцца. Я разумею. І ўсё ж дапытлівасць бярэ верх. Для любой справы патрэбен нейкі першапачатковы капітал. Нават маленькі цыгарэтны бізнес, якім да нядаўняга часу займаліся нашы чаўнакі, без капейкі ў кішэні не рабіўся. А Карасцялёў, між іншым, абышоўся нават без банкаўскай пазыкі. Прасіў, але не атрымаў. І пачаў з таго, з чаго пачыналі многія сумленныя бізнесмены, — з арганізацыі малога ўласнага бізнесу.

Для пачатку набыў старэнькі «КамАЗ». Прачуў, што ў Маскве ляжыць тавар, якога на беларускім рынку са свечкай не знойдзеш. Купляў, прадаваў, заключаў бартэрныя здзелкі. У той час паняцце «маркетынг» толькі пачынала займаць у свядомасці вытворцы належнае яму месца. Але кніга П.Котлера, прафесара Паўночна-Заходняга універсітэта ЗША, пра асновы гэтага віду чалавечай дзейнасці, накіраванай на задавальненне патрэбнасцей шляхам абмену, ужо ішла нарасхват. Як гэта ні парадаксальна, але па сутнасці мы з рынку ўваходзілі ў рынак. І нам трэба было па-новаму глянуць на таварна-грашовыя адносіны, эканамічныя рычагі, рыначныя працэсы, рэальнае дзеянне закона вартасці. І той, хто своечасова зарыентаваўся ў пераменах, змог аказацца на грэбені хвалі.

Купляючы ў магазіне бутэльку мінеральнай, наўрад ці задумаецца хто з нас аб тым, як жа гэтая бутэлька дайшла да прылаўка, не разбілася, не разлілася, зрабіўшы, можа, не адну сотню кіламетраў... Аляксандр Карасцялёў задумаўся, прааналізаваў сітуацыю і прыйшоў да высновы, што скрынкавая тара — гэта для гандлю праблема нумар адзін. І не толькі для гандлю, але і для вытворцаў, якія пастаўляюць яму тавар у шкляным посудзе. Так прыйшла думка наладзіць сіламі малога прадпрыемства выпуск скрынкавай тары. А для гэтага трэба мець тарную дошчачку. Палічыў за лепшае наладзіць дрэваапрацоўку ў сябе, чым карыстацца паслугамі іншых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Заказчыкаў шукаў толькі напачатку, цяпер яны шукаюць яго. А чаму тут здзіўляцца? Пластмасавая скрынка для піўных бутэлек каштуе сёння ў сярэднім каля пяці тысяч рублёў, драўляная, выраблена малым прадпрыемствам «Вера», — напалавіну танней. Можна спрачацца наконт даўгавечнасці. Але тут з тэхналагічнай дысцыплінай усё ў парадку. Якасная сыравіна, металічныя вуглкі і ўмелыя рукі вытворцаў гарантуюць скрынкам доўгае жыццё.

Сярод пастаянных заказчыкаў «Веры» — маладзечанскія піўзавод і пладакансервавы камбінат. Ёсць заказчыкі за межамі рэспублікі. Прадпрыемства рэгістравалася з шасцю работнікамі ў штатным раскладзе. Сёння іх тут каля трыццаці. На сезонныя работы падключаюцца дадатковыя рабочыя рукі. На збор траў ахвотна ідуць гараджане. Зарплата — па працоўных затратах. Дарэчы, пра людзей у малым прадпрыемстве клапоцяцца. Па сутнасці вытворчасць толькі пачынае арганізоўвацца, а разам з цэхамі пабудавана цёплая добраўпарадкаваная бытоўка. У работнікаў няма праблем з палівам: адходы драўніны сваім, як правіла, выдзяляюцца бясплатна, у парадку заахвочвання.

Чым сталярны цэх малога прадпрыемства вабіць заказчыкаў? Перш-наперш — магчымасцю заказаць тут любы нестандартны выраб. Вазьміце той жа аконны блок. На буйным заводзе лінія ўжо запраграміравана на адпаведны стандарт. Ніхто не будзе яе пераналаджваць для дробнага заказу. Сюды ж можна прынесці любы чарцёж — яго прымуць для выканання. Індывідуальныя забудоўшчыкі — усе, каго не вабяць тыпавыя праекты, знаходзяць тут разуменне. Магчыма, сам Аляксандр Захаравіч увогуле таксама нестандартны кіраўнік. Дзе вы, напрыклад, бачылі, каб чалавеку плацілі асобна за кожны выраб? Ды і існуючая на буйных прадпрыемствах канвеерная сістэма не дазваляе часам вызначыць віноўніка вытворчага браку: калектыўная работа, калектыўная адказнасць. Падзялі яе на ўсіх — кожнаму і па кроплі не дастанецца. Тут расцэнкі цвёрдыя: зрабіў адну тарную скрынку — лічы, трыццаць працэнтаў яе адпускной цаны ў тваёй кішэні. Такая сістэма дазваляе не мітусіцца з расцэнкамі нават ва ўмовах неўтаймоўнай інфляцыі.

Па Котлеру — тэарэтыку маркетынгу, любая фірма павінна глядзець наперад, каб ясна ўсведамляць, куды яна хоча ісці і якім шляхам можна дабрацца да мэты. Адным словам, не варта пускаць на самацёк уласнае будучае. Вось і ў «Веры» ёсць свая перспектыва. Ніколі не будзе забыты той від дзейнасці, які даў пуцёўку ў жыццё малому прадпрыемству. Так лічыць яго кіраўнік. Гэта — вырошчванне траў. Далейшая меліярацыя ўчастка дасць магчымасць развіваць агародніцтва. Будуць кармы, значыць, можна трымаць жывёлу. Ужо пабудаваны хлеў для свіней і кароў. Магчыма, фірма зоймецца прамысловым вырошчваннем грыбоў. А наогул ужо цяпер яна не адмаўляецца ад заказаў, якія могуць прынесці пэўны прыбытак. Акрамя старэнькага «КамАЗа», які саслужыў немалую службу пры яе станаўленні, тут набыты яшчэ «МАЗ» і «ГАЗ-53".

Прадбачу скепсіс з боку найбольш кансерватыўных у сваіх поглядах чытачоў: маўляў, гаворка ідзе аб самай звычайнай памешчыцкай гаспадарцы. Прызнаюся, такая думка з"явілася і ў мяне: светапогляд пазнавата ўжо мяняць. Ды і наогул не трэба. Але тое новае, што апошнім часам да нас прыйшло, варта ўспрымаць як рэальнасць. Нават калі яно — даўно забытае старое. Пад якой бы шыльдай — малога прадпрыемства, акцыянернага таварыства, фермерскай гаспадаркі ці кансорцыума — ні стукала яно ў нашу свядомасць, ведайце: пазбегнуць сустрэчы з ім не ўдасца. У рэшце рэшт, усё гэта не так ужо і дрэнна. Праз шматукладнасць эканомікі пралёг семдзесят год назад шлях да сацыялізму. Дыялектыка сведчыць, што гісторыя паўтараецца, толькі на якасна новым узроўні.

... — Аляксандр Захаравіч, а чаму — «Вера»? Не «Надзея», напрыклад, не «Любоў»?

— Звычайна я адказваю, што Верай завуць маю цешчу. Наогул жа, каб спадзявацца і любіць, трэба спачатку паверыць...

*Марыя КУЗАЎКІНА.*



**Сярод тых, хто праз жахі вайны цярпліва і мужна ішоў да Перамогі, былі і падпольшчыкі Мінска. Іх жыццё і барацьба заслугоўваюць самай глыбокай павагі. Шкада, што нават праз дзесяцігоддзі мы не ведаем яшчэ ўсіх сапраўдных сваіх герояў, не аддалі ім належнае.**

**Мы будзем публікаваць нарысы навуковага супрацоўніка АН Беларусі У.І.Кузьменкі з мэтай узнавіць гісторыю шэрагу падпольных груп, дзейнасць якіх не асвятлялася ў друку. Прапануем вашай увазе першы з іх.**

# САПСАВАЛІ БАНКЕТ

У падпольнай арганізацыі, групе заўсёды павінен быць лідэр, арганізатар, кіраўнік, чалавек, маючы веды, здольнасці, аўтарытэт сярод таварышаў, уплыў на іх. Такім і быў Кузьма Лаўрэнцьевіч Матузаў. Інжынер-будаўнік, удзельнік паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, фінскай кампаніі. Вялікая Айчынная вайна заспела дома, у Мінску. Ваяваў начальнікам інжынернай службы аднаго з палкоў 298-й стралковай дывізіі. У канцы верасня 1941-га на Кіеўскім кірунку быў паранены, кантужаны, трапіў у палон. У канцы лістапада здолеў уцячы, хворы, зусім знясілены і нямоглы дабраўся ў Мінск, да сям"і. Доўгі час давялося хавацца, нелегальна лячыцца, бо раны былі яшчэ не загоеныя, правая рука не дзейнічала.

З лячэннем дапамаглі родныя. У адзін са снежаньскіх дзён жонка прывяла знаёмага доктара. Не таіліся, расказалі ўрачу, дзе быў паранены. Ён уважліва праслухаў, агледзеў параненага і з хмурным выглядам пачаў пісаць рэцэпт. Аднак не закончыў, скамечыў і паклаў у кішэню. Сказаў: "Як падрыхтую лекі, прыйду да вас". Пацікавіўся, як сям"я забяспечана харчаваннем, дадаў: "Хворага патрэбна ўзмоцнена карміць".

Так завязалася знаёмства з Аляксеем Мікалаевічам Болбатам. Потым ён стаў актыўным удзельнікам падпольнай групы, памочнікам Матузава.

Паступова прыйшло выздараўленне. Пашанцавала з дапамогай знаёмых легалізавацца ў горадзе. Уладкаваўся на працу начальнікам домакіраўніцтва № 1 па вуліцы Уфімскай. У сакавіку 1942 г. Кузьма Лаўрэнцьевіч наладзіў сувязь з разведчыкамі спецатрада Л.Сарокі, забяспечыў іх неабходнымі дакументамі, дапамог з канспіратыўнай кватэрай. Пачаў збіраць і перадаваць у атрад розныя звесткі. Назіраў за тым, што робіцца ў горадзе, знаёміўся з людзьмі, знаходзіў і збіраў аднадумцаў. Так акрэслілася кола людзей, якія пачалі працаваць з Матузавым у падполлі. У красавіку 1942 г. К.Л.Матузаў пазнаёміўся з кіраўніком групы савецкіх разведчыкаў С.К.Вішнеўскім, дапамог яму атрымаць на групу "аўсвайсы". Неўзабаве, у маі 1942-га, на яго выйшлі і пасланцы спецатрада "Градава" /С.Ваўпшасава/.

На пачатак лета 1942 г. у групе Матузава працавалі Андрэй Каспяровіч, Аляксей Болбат, Мікалай Прохарчык, Антон Лічко, Дар"я Адзінцова. Затым група павялічылася. Частка яе з"яўлялася супрацоўнікамі домакіраўніцтва, якое ўзначальваў К.Матузаў. На працы яны маглі легальна сустракацца, абмяркоўваць розныя пытанні, атрымліваць заданні.

"Дуб-2" /падпольная мянушка К.Л.Матузава, атрыманая ад С.Ваўпшасава/ у інтарэсах справы ўладкоўваў людзей на працу ў розныя арганізацыі і ўстановы, бліжэй да немцаў: у будаўнічыя арганізацыі нямецкіх фірм, на чыгунку, у нямецкія сталоўкі і г.д. Нарады групамі па 2—3 чалавекі, адзін на адзін з Матузавым праводзілі на явачных кватэрах.

Шкодзілі ворагу чым маглі. Дапамагалі ваеннапалонным. Назіралі за чыгункай, перамяшчэннем нямецкіх часцей, тэхнікі, раздабылі карту з аб"ектамі Мінска, выцягвалі інфармацыю з падслуханых размоў паміж немцамі. Сабраныя звесткі па рацыях атрадаў Л.Сарокі і С.Ваўпшасава перадаваліся за лінію фронту. Здабывалі зброю, накіроўвалі партызанам.

Летам 1943 г. акрэсліўся намер ударыць па СД, тых катах, што замучылі ў Мінску мноства партызан і падпольшчыкаў, жыхароў горада. Хутка высветлілі: у адным з карпусоў універсітэцкага гарадка /будынак гісторыка-філалагічнага факультэта/, дзе сталоўка СД, вышэйшыя чыны гэтай карнай арганізацыі збіраюцца на розныя банкеты. Абапіраючыся на падтрымку атрада С.Ваўпшасава, К.Матузаў пачаў рыхтаваць дыверсію. У сталоўку СД уладкавалася працаваць Капіталіна Гур"ева. Яна падключыла да падпольнай дзейнасці працаваўшую там жа Юлю /Вулляну/ Казлову. Дасканала быў вывучаны рэжым работы сталоўкі, хто і калі яе наведвае.

Аднак у хуткім часе Гур"ева чымсьці не дагадзіла немцам, яе звольнілі з работы і вырашылі прымусова накіраваць у Германію. Каб пазбегнуць гэтага, падпольшчыцы давялося перайсці ў атрад С.Ваўпшасава. І ўвесь цяжар ажыццяўлення дыверсіі прыпаў на Юлю Казлову.

Вось як аб гэтым у сваіх успамінах піша К.Матузаў: "Працуючы ў сталоўцы, Кіма /Капіталіна Гур"ева. — У.К./ здружылася з Казловай Вулляной, у нейкай ступені ведала яе з дадатнага боку, пазнаёміла мяне з гэтай дзяўчынай... Капіталіна была залічана ў рады партызан і з гэтага часу знаходзілася ў атрадзе "Градава". Намечаную дыверсію ў сталоўцы СД давялося ажыццяўляць праз Казлову Вулляну /Юля — так мы яе клікалі/. Аднак Юлю я мала ведаў як чалавека, невядомыя былі і яе погляды. Спатрэбілася шмат часу, каб яе падрыхтаваць. Па свайму ўзросту была маладая, дваццацігадовая, простая дзяўчына, ды і па натуры не з бойкіх. Не паспела яшчэ давучыцца, атрымаць адукацыю, спецыяльнасць. Жыла з маці і сястрой Наташай па вуліцы Бабруйскай. Дзелавыя нашы сустрэчы з ёю бывалі ў домакіраўніцтве, у гарадскім скверы каля тэатра Я.Купалы і на канспіратыўнай кватэры па Апанскага,72. Каля двух месяцаў мы вялі старанную падрыхтоўку да гэтага цяжкага і небяспечнага задання..."

Праз сваіх давераных асоб К.Матузаву стала вядома, што на 6 верасня 1943 г. гітлераўцы намячаюць банкет, на якім будуць прысутнічаць вышэйшыя чыны паліцыі бяспекі і СД. Аднак не было ўзрыўчаткі, мін. З просьбай аб дапамозе звярнуліся да С.Ваўпшасава. Тол і магнітныя міны былі неўзабаве перапраўлены з атрада ў Мінск. Іх прынесла Капіталіна Гур"ева. Прыхавалі ўсё на Апанскага,72 — кватэры Дар"і Адзінцовай.

Заставалася самая складаная частка аперацыі. Кіраўнік групы ва ўспамінах асвятляе яе так: "За два дні да выканання дыверсіі па майму выкліку Юля прыехала на веласіпедзе на Апанскага, 72, кв.2. Дар"я Мікалаеўна прынесла "магніткі" ў кватэру /хавалі ў хляве/, перадала іх мне, а сама выйшла на вуліцу вартаваць. Седзячы за сталом пры занавешаных вокнах, я ў гэты час вучыў Юлю, як трэба абыходзіцца з магнітнымі мінамі запаволенага дзеяння, з гадзіннікавым механізмам. Дакладна дамовіліся — дзе, як і ў які час трэба было закласці ўзрыўчатку з мінамі. Тады нам даводзілася ўлічваць напружанасць ваеннага становішча, якое магло змяніць дзень і час папярэдне намечанага банкету. Удакладненні патрэбна было ўносіць ужо менавіта 6 верасня, непасрэдна назіраючы на кухні за падрыхтоўкай. Таму я параіў Юлі не спяшацца з мініраваннем. Унутраную планіроўку памяшкання абедзеннай залы я сам добра ведаў, бо прабіраўся туды пад маркай рамонту ўсяго будынка.

Атрымаўшы ад мяне ўзрыўчатку — тол, Юля склала яго ў сваю паходную сумку, замаскіраваную зверху, прымацавала да веласіпеда, хутка ўскочыла на сядло і рушыла праз увесь горад на вуліцу Бабруйскую, дзе тады жыла.

6 верасня 1943 г. яна паспяшалася на работу, каб раней за ўсіх трапіць на сваё рабочае месца, распаліць кацёл /у той дзень яна была дзяжурнай па кухні/, а галоўнае — каб паспяхова пранесці ў будынак сваю гаспадарчую сумку, напоўненую толам. Каля будынка сталовай Юлю сустрэла Адзінцова Дар"я і хутка перадала "магніткі", загорнутыя ў цёмны кавалак тканіны. Яны разам прайшлі некалькі крокаў і разышліся. Юля загадзя паспела на сваё месца і здолела тол і міны схаваць у кладоўцы. Пераканаўшыся, што акрамя яе ў памяшканні яшчэ нікога няма, яна ўзяла тол з сумкі і заклала яго ў печ, якая стаяла ў абедзеннай зале, добра замаскіравала смеццем.

Рабочы дзень у Юлі скончыўся ў 14 гадзін. Аднак для мініравання "магніткамі" ёй трэба было затрымацца да 16 гадзін. Давялося шукаць прычыны для затрымкі. Шэф-повару Орна яна прапанавала свае паслугі: памыць паліцы-стэлажы, прызначаныя для вяндліны. Орна адобрыў гэта, а Юля тым часам выканала мініраванне абедзеннай залы, у 16 гадзін завяла магнітныя міны на мінімальны трохгадзінны завод і заклала ў печ.

Выбух прагрымеў дакладна ў назначаны час — у 19 гадзін..."

Карная арганізацыя гітлераўцаў атрымала вельмі адчувальны ўдар. На банкеце, як паведамляла акупацыйная прэса /гэтыя лічбы скарыстоўваў у справаздачах і С.Ваўпшасаў/, загінулі 16 і паранены 32 афіцэры СД і іншых нямецкіх службаў. Непасрэдныя ж выканаўцы дыверсіі пазбеглі арышту і перабраліся ў спецатрад "Градава".

Гэта быў буйны поспех падпольшчыкаў, падзея, якая паказала растучую моц народнага супраціўлення фашыстам.

Шмат хто з групы, у тым ліку і К.Матузаў, каб выратавацца, восенню 1943 г. вымушаны былі перайсці ў партызанскія атрады. Аднак пашчасціла не ўсім. Тых, хто застаўся ў Мінску, выдаў правакатар. СД арыштавала Платона Калейніка, Андрэя Каспяровіча, Ніну Чумакову, Антона і Вольгу Лічко. Так нічога і не паведаміўшы немцам, А.Лічко ад катаванняў памёр. Калейніку і Каспяровічу цудам удалося ўцячы з-пад варты ў час перасылкі. Жанчын вывезлі ў канцлагер на тэрыторыі Францыі, дзе ім доўгія месяцы давялося чакаць вызвалення. Мікалай Прохарчык загінуў ужо пасля таго, як немцаў выбілі з Беларусі, у 1945-м, на фронце.

*Уладзімір КУЗЬМЕНКА, кандыдат гістарычных навук.*

## Міласэрнасць




*Не абмінула чарнобыльская бяда Маладзечанскі раён. Семнаццаць вёсак накрыла яна сваім чорным крылом. Раённай бальніцы без адпаведных лякарстваў і медыцынскага абсталявання не пад сілу сачыць за здароўем жыхароў гэтых населеных пунктаў. Да таго ж, яны трымаюць пад сваім наглядам выхаванцаў Радашковіцкага дома-інтэрната.*

*Вясной гэтага года пры дапамозе дабрачыннага фонду «Дзеці Чарнобыля» былі наладжаны кантакты з аўстрыйскім дабрачынным фондам «Бізон». Знаходзіцца ён у горадзе Фрайштат. Узначальвае яго Ф.Глазнер. Тады фонд перадаў Маладзечанскай раённай бальніцы машыну «хуткай дапамогі», на адзін мільён аўстрыйскіх шылінгаў лякарстваў і медабсталявання.*

*Нядаўна паміж раённай бальніцай і дабрачынным фондам «Бізон» быў заключаны дагавор аб шэфскай дапамозе. Ён прадугледжвае стажыроўку раённых урачоў у Аўстрыі. Акрамя таго, за кошт фонду «Бізон» плануецца ў снежні вывезці на лячэнне за мяжу групу дзяцей. Дабрачынны фонд перадаў раённай бальніцы медыкаментаў, абсталявання больш чым на чатыры мільёны шылінгаў.*

*Мікалай ЖУЧКО.*

*НА ЗДЫМКУ: члены дабрачыннага фонду «Бізон» перадаюць гуманітарную дапамогу работнікам Маладзечанскай раённай бальніцы.*

*Фота Анатоля БАСАВА*

## У Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці

# ПРА ДЗЯРЖЗАКАЗ ЗАБЫЛІ

Лён — культура прыбытковая. У нашай рэспубліцы ўмовы для яго вырошчвання спрыяльныя. Так што можна разлічваць на немалую «капейку». Важна толькі ўмець рэалізаваць яго па-гаспадарску.

Работнікамі Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці нядаўна была праведзена праверка на Красненскім ільнозаводзе, што ў Маладзечанскім раёне. Яна выявіла шэраг парушэнняў фінансава-гаспадарчай дысцыпліны з боку кіраўніцтва. У прыватнасці, ільноволакно ў шэрагу выпадкаў рэалізоўвалася па заніжаных цэнах. Не выкананы план па дзяржзаказу. Матэрыяльныя страты ў выніку за мінулы і бягучы гады склалі больш васьмі мільёнаў рублёў (па дэнамінацыйных цэнах). Часта заводская прадукцыя збывалася праз камерцыйныя структуры. Зрэшты, тут не было б нічога процізаконнага — трэба ж неяк выжываць у сённяшніх умовах, — калі б не адна акалічнасць: іншы раз лён прадаваўся па заніжаных цэнах. Каму гэта было выгадна? Прадпрыемству — наўрад ці.

Такое пытанне, дарэчы, задалі на нядаўна праведзеным пасяджэнні інспекцыі Кантрольнай палаты па Мінскай вобласці дырэктару Красненскага льнозавода А.Манькоўскаму. І талковага тлумачэння ад яго не пачулі.

Зразумела, сённяшнія рынычныя адносіны дыктуюць сваю цэнавую палітыку. Але дзяржзаказ ёсць дзяржзаказ. І спробы апраўдаць свае дзеянні тым, што сёння яго як такога не існуе, альбо тым, што нясвоечасова быў даведзены план, гучаць сама меней несур'ёзна.

Вырабы з лёну заўсёды высока цаніліся. Нездарма ж «паўночны шоўк» лічаць культурай стратэгічнай. І вельмі шкада, што з ёю, як у выпадку з Красненскім заводам, абыходзяцца не зусім па-гаспадарску. Дакладней, дзяржава ад гэтага калі што і мае, дык самы мізэр.

У прынятым на пасяджэнні інспекцыі рашэнні ўказваецца на выяўленыя парушэнні. Трэба думаць, што на прадпрыемстве пастараюцца іх выправіць.

*Алена РАТАЗЕЕВА, галоўны кантралёр.*

## Год охраны природы

# ...А СОХРАНИМ СЕБЯ

В апреле прошлого года Совет Европы внес предложение объявить 1995 год Годом охраны природы в Европе. Цель этой кампании — привлечь внимание руководителей государств, хозяйственников и ученых, общественные организации, граждан к экологическим проблемам. Подготовкой и проведением Года охраны природы в Европе занимается Европейский международный организационный комитет. У нас в республике создан национальный комитет, а в областях и районах, соответственно, областные и районные комитеты по подготовке и проведению Года охраны природы в Европе.

Что касается Минской области, то в этой акции должны принять участие все предприятия и организации, колхозы и совхозы, учебные заведения, общественность. Согласно распоряжению облисполкома №100р от 21.06.94 г. "О проведении Года охраны природы в Европе", созданы и утверждены областные и районные комитеты по проведению этого мероприятия. Председателем областного комитета назначен зам. председателя облисполкома В.Майко.

Мероприятия по подготовке и проведению Года охраны природы в Минской области включают в себя задачи, связанные с использованием и охраной природных ресурсов. Райинспекции по экологии совместно с лесничествами, учащимися школ проводят посадки деревьев в водоохранных зонах рек, укрепляют лесозащитные полосы вдоль дорог, высаживают аллеи в населенных пунктах. Областным комитетом по экологии была организована посадка деревьев в водоохранной зоне реки Плисса в Смолевичском районе. Силами студентов Белорусского аграрного технического университета под руководством профессора кафедры экологии К.Саевича посажено 270 деревьев.

*Алевтина ВАЛЕНТЮКЕВИЧ, секретарь областного комитета по проведению Года охраны природы в Европе.*

# ЗУБРОЎ РЫХТУЮЦЬ ДА ЗІМЫ

Навасельцаў Налібоцкай пушчы — 15 белавежскіх зуброў — чакае першая зімоўка ў Стаўбцоўскім раёне. Вясной іх завезлі сюды леснікі і спачатку размясцілі ў вальерах. А летам жывёлін, якія ўжо прызвычаіліся да новых месц, выпусцілі на волю. Яны добра прыжыліся ў мясцовых лясах, відаць, прыняўшы іх за родную Белавежскую пушчу. Але з надыходам халадоў ежы стала менш. Вось і вырашылі работнікі лясгаса арганізаваць "сталовую" для зуброў, загадзя падрыхтаваўшы кармавыя прыпасы на доўгую зіму. Ды заадно леснікі абавязаліся прыглядваць за сваімі гадаванцамі, ахоўваючы іх ад браканьераў.

*БЕЛІНФАРМ.*

# «ЯЗЫКОВОЙ» КРИЗИС

По решению родителей учеников средних школ создан республиканский комитет «За свободный выбор языка обучения».

По сведениям комитета, «языковой» кризис охватил школы №№ 65 и 189 г.Минска, №№ 61, 44, 56 и 53 г.Гомеля, №№ 7, 37 г.Могилева, № 35 г.Бреста.

Цель своей деятельности комитет видит в достижении гарантированного обеспечения свободного выбора основного языка обучения в средних школах и вузах Беларуси, недопущении дискриминации по языковому признаку.

# Крутые истории, вторая серия

## О любви крокодила к ковбойским сапогам, кабаноголовом Петре и четырехногой Магдалене, которая наконец вышла замуж

Свершилось. Четырехногая девушка из приморского города Канн нашла наконец-то спутника жизни и связала с ним свое будущее. Эту сенсационную новость сообщила еженедельная французская газета "Инфо дю монд", о которой мы рассказали минувшим летом (см. "Труд" от 2 августа 1994 года). Газета, напомним, специализируется на "паранормальной" информации, которую некоторые скептики почему-то называют выдумкой. Действительно, что может быть реальнее, достовернее изображенной на публикуемом нами снимке 22-летней Магдалены, излучающей счастье и прочно, ровно в два раза прочнее, чем каждый из нас, стоящей на земле? "Инфо дю монд", которая, как мы уже писали, на репортаж о девушке из Канн получила множество писем. Позднее редакция уведомила читателей, что Магдалена из числа желающих с ней познакомиться молодых людей сначала выбрала Ромона, но его, как оказалось, больше привлекала "физическая необычность" красотки, а совсем не душевные качества. Хотя Магдалене было тяжело, она пошла на разрыв, рассказал недавно друг и куратор девушки по линии "Инфо дю монд" "суперрепортер" Стефан Бордье. Пережив любовную драму, четырехногая девица уже не хотела встречаться ни с кем из читателей газеты, откликнувшихся на публикации о ней в "Инфо", но Стефан уговорил-таки ее, и... Магдалену пронзила любовь с первого взгляда к 27-летнему атлетически сложенному Гизлену из Ниццы.

"Я сразу поняла, что это Он, — рассказывает на страницах "Инфо" сияющая красотка. — Гизлен не глядел бесстыже, как некоторые, на мои хорошенькие ножки. Он расспрашивал о моих увлечениях, привязанностях. Его я интересовала как личность... Это было, как в сказке!" Свадьба состоялась в присутствии друзей и близких.

Рассказы о необычных судьбах соотечественников — конек специалистов по "паранормальной" информации из "Инфо дю монд". Ну чем не странная семейка — мать и сын Морэны из-под города Безансон! В июне 1976 года, когда Рафаэлю было десять лет от роду, он и его мамаша Лили-Жанна решили поиграть в прятки. Прятался Рафаэль, а "водила" Лили-Жанна. С тех пор мамаша... никак не может найти сыночка. Нет, он не исчез бесследно, не растворился за горизонтом, а продолжает обитать где-то не то в доме, не то в густом саду вокруг него. Подтверждение тому — исправно вот уже в течение 18 лет оставляемое им для стирки белье, а также холодильник, из которого с неменьшей регулярностью исчезают продукты. Встретившись украдкой с представителем "Инфо дю монд", Рафаэль, который за минувшие годы из хрупкого подростка превратился в высокого блондина с развитой мускулатурой, заявил: "Пока мамаша не признается, что проиграла, на глаза ей не появлюсь".

Попадают на страницы газеты, правда, и иностранцы. Конечно, в том случае, если в них есть что-то выдающееся. Как, например, в 28-летнем Петре Васильеве, российском уроженце (снимок справа). А необычное в Петре — голова, и, как следствие, — судьба. Голова у него скорее кабанья, нежели человеческая, мохнатая, клыкастая, но глаза — проницательные. Живет сейчас Петр во Франции. Из России, обидевшись, уехал. И вот почему. Итак, задолго до того, как французы добились успехов в области молекулярной генетики, русский ученый Шуракин проводил опыты с искусственным оплодотворением клетки, повествует самое "серьезное" издание Франции. И не думал Шуракин, что результат его экспериментальной деятельности — нечто болтавшееся в пробирке — будет по случайности занесено в материнскую утробу и приживется. Но прижилось, и в отмеренный срок на свет появился маленький Петр Васильев. При виде младенца, как позже рассказывала его мать, врач-акушер издал вопль и рухнул в обморок. Тяжела была жизнь кабаноголового Петра, повествует "Инфо дю монд". Жертве преступного эксперимента профессора Шуракина даже не выплачивали пенсию. Одна лишь отрада была у Петра Васильева — жена красавица Ирина, которая ценит людей не по внешнему виду, а по душевному содержанию. Вместе с ней и перебрался Петр во Францию, страну, в которой к нему отнеслись с интересом, особенно журналисты из "Инфо дю монд".

Новости со всего света — дело серьезное, и, конечно, "Инфо дю монд" не могла пройти мимо невероятного события, произошедшего недавно в Мексике. Вот эта эксклюзивная информация, попавшая в руки лихих газетчиков. "Я видел, как крокодилы выделывают всякие странные вещи, но чтобы покушаться на сапоги — никогда", — заявил Рафаэль Генеза, пресс-атташе парка-заповедника, расположенного в нескольких километрах от Мехико. "Пришлось воспользоваться огнетушителем, чтобы животное оставило в покое мадам", — добавил он. Случилось же вот что. В предобеденное время Марж Альварес, ее супруг Рауль, а также их племянник прогуливались по заповеднику. Все шло прекрасно, и троица наслаждалась природой вплоть до того момента, когда оказалась рядом с бассейном с крокодилами. "Племянник захотел меня сфотографировать на фоне бассейна, — рассказывает 35-летняя Марж. — Я приняла позу... И тут все произошло! Я увидела крокодила, который проворно полз в мою сторону. В ужасе я подумала, что он меня разорвет на куски. Муж и племянник пытались прийти на помощь, но тщетно. К моему удивлению, зверь не стал сокрушать меня своими ужасающими челюстями, а принялся тереться о мои сапоги!" Спустя некоторое время на крики людей примчались служители заповедника и огнетушителем отогнали крокодила, а после усыпили его специальными ампулами. "Только тогда я поняла, — говорит Марж, — что крокодил и не собирался меня пожирать, он просто влюбился в мои ковбойские сапожки и хотел, как я сейчас догадываюсь, заняться с ними любовью. Ведь мои сапоги очень дорогие и сделаны из настоящей крокодиловой кожи".

Газета не только информирует о необычайном, но и дает ценные советы. Как, к примеру, вести себя в обыденных ситуациях, чтобы серьезно увеличить вероятность благоприятного исхода тех или иных дел. Вот некоторые из них:

1. Моя руки, поворачивайте кусок мыла в ладонях ровно пять раз. Как утверждает статистика, 74 процента людей, поступающих таким образом, никогда не имеют проблем с желудком.

2. Включая свет, проделывайте эту операцию дважды. 85 процентов лиц, которые следуют этой привычке, никогда не оказываются в положении брошенного мужа или оставленной жены.

3. Садитесь за руль автомобиля через правую дверцу. 96 процентов людей, которые делают это систематически, никогда не попадают в аварии.

4. Поднимай телефонную трубку только на восьмом звонке зуммера. В этом случае резко падает вероятность ошибок телефонной компании при составлении вашего счета за связь.

5. Хотите удачи в лотерее? Ежевечерне скрещивайте пальцы обеих ног.

6. Читайте газеты начиная с последней страницы. Это прекрасный способ отвести от себя служебные неприятности. 78 процентов таких читателей никогда не попадали в число безработных.

Сомневаетесь? Ну что ж, хотите верьте, хотите нет.

**Вячеслав ПРОКОФЬЕВ, соб. корр. "Труда".**
ПАРИЖ.



■ Пісьмо з каментарыем

# ВЫ ЗАХАЦЕЛІ АДПАЧЫЦЬ...

**Паважаныя таварышы, супрацоўнікі "Мінскай праўды"! Звяртаюся да вас з папрокам. У газеце многа публікацый на розныя тэмы, а вось адну абыходзіце. А яна ж актуальная для тых, хто думае адпачываць у Беларусі. Зімой у многіх пансіянатах і дамах адпачынку нямала свабодных месц. І не таму, што няма жадаючых: маўляў, не сезон. Проста людзі не ведаюць, дзе можна адпачыць.**

**Напішыце ў газеце, колькі ў Беларусі санаторыяў, пансіянатаў, дамоў адпачынку, дайце іх адрасы. Да каго трэба звяртацца за пуцёўкамі?**

*Ваш пастаянны падпісчык і селькор Генадзь ДУРЭЙКА.*

Згодны з вамі: не трэба нам ехаць у далёкія краі. І ў Беларусі ёсць нямала цудоўных месц для адпачынку. Мяккі клімат, лясы, азёры і рэчкі, жыватворны водар паветра — што яшчэ трэба чалавеку? Аднак, паважаны Генадзь Пятровіч, няма ніякага сэнсу друкаваць адрасы ўсіх аздараўленчых устаноў рэспублікі. Зазначым толькі, што аб'яднанне «Беларуськурорт» Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі мае на тэрыторыі Беларусі 11 санаторыяў для дарослых і 2 дзіцячыя, адзін пансіянат, 5 дамоў адпачынку. У «Белкалгасздраўніцы» дзейнічаюць 14 санаторыяў, а 5 будуюцца.

Што датычыць пансіянатаў, то цяжка сказаць, колькі іх маецца на сённяшні дзень, бо яны належаць прадпрыемствам і арганізацыям розных галін народнай гаспадаркі.

Нельга пагадзіцца з вашым сцвярджэннем, што ўвосень і зімою ўсе гэтыя лячэбна-аздараўленчыя ўстановы амаль пустуюць. Паводле атрыманых з афіцыйных крыніц звестак, «напаўняльнасць санаторыяў і дамоў адпачынку перавышае сто працэнтаў».

Круглагадовая работа пансіянатаў залежыць ад фінансавых магчымасцей калектываў, на ўтрыманні якіх яны знаходзяцца. А цяпер наконт таго, у чыіх руках зараз размеркаванне пуцёвак.

— Раней пуцёўкі набывалі прафсаюзы ўсіх узроўняў — ад Белсаўпрофа да прафкомаў і саміх працоўных, — расказвае загадчык абласнога аддзялення рэспубліканскага фонду «Здароўе» З.М.Рымарчук. — Зараз сітуацыя карэнным чынам змянілася. Фінансаванне аздараўленчых мерапрыемстваў ажыццяўляецца за кошт дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. Выдзеленыя адтуль сродкі праз наш фонд накіроўваюцца на набыццё пуцёвак, выплату датацый на ўтрыманне санаторна-прафілактычных устаноў, дзіцячых аздараўленчых лагераў і спартыўных школ.

Наш асноўны прынцып размеркавання пуцёвак — па галіновых прафсаюзах, а ўнутры іх — паміж прафкомамі прадпрыемстваў, упраўленняў і арганізацый, прапарцыянальна колькасці працуючых, незалежна ад ведамаснай прыналежнасці.

— І тут, Зінаіда Міхайлаўна, якраз дарэчы напомніць пытанне нашага чытача: куды звяртацца з просьбай аб набыцці пуцёўкі на лячэнне ці адпачынак?

— Права на іх атрыманне маюць усе працоўныя, з зарплаты якіх у адпаведнасці з заканадаўствам бяруцца ўзносы на сацыяльнае страхаванне, а таксама студэнты інстытутаў, навучэнцы тэхнікумаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. Пуцёўкі выдаюцца прафкомамі па месцы работы, вучобы ці атрымання пенсіі. Падкрэслю: не адным яго старшынёй, а на падставе калегіяльна прынятага рашэння.

— А калі на прадпрыемстве няма прафсаюзнай арганізацыі ці маюцца некалькі, якія адносяцца да розных прафсаюзаў, у тым ліку і не ўваходзячых у састаў Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі?

— У такіх выпадках забеспячэнне пуцёўкамі праводзіцца аддзяленнямі фонду «Здароўе», на падставе заключаных з намі дагавораў. Дарэчы, і з абкомамі прафсаюзаў мы працуем таксама на дагаворнай аснове.

Калі ж гаварыць аб аздараўленні ў цэлым, то сёлетні год быў самым цяжкім з дзесяці апошніх, калі я займалася гэтай справай. Складанае эканамічнае становішча адбілася і на аздараўленні людзей. Скарачэнне колькасці курортаў і здраўніц па-за межамі рэспублікі, шматкратнае падаражанне кошту пуцёвак і праезду да месца лячэння і адпачынку абвастрылі сітуацыю. З-за высокай цаны мы не змаглі набыць пуцёўкі на такія папулярныя курорты, як Кіславодск, Есентукі, Жалезнаводск, на Паўднёвы бераг Крыма... Адсюль і зніжэнне колькасці адпачываючых.

Так, сёлета за тры кварталы на 1.000 працуючых былі выдзелены ў сярэднім па аб'яднанню галіновых прафсаюзаў вобласці (а на яго выходзяць 14 абкомаў з колькасцю членаў звыш аднаго мільёна чалавек) 21 пуцёўка ў санаторыі і 7 — у дамы адпачынку супраць 29 і 15 за аналагічны перыяд мінулага года.

Што датычыць аздараўлення дзяцей, то яго летам прайшлі каля 100 тысяч дзяўчынак і хлопчыкаў — практычна захаваны леташні ўзровень.

Перспектывы на наступны год? Заключана адпаведнае пагадненне паміж урадам і саветам Федэрацыі прафсаюзаў. Сродкі па-ранейшаму будзе выдзяляць дзяржава з фонду сацыяльнага страхавання. Колькі на іх зможам набыць пуцёвак? Аб канкрэтных лічбах гаварыць рана. Усё залежыць ад стабілізацыі нашай эканомікі, зніжэння тэмпаў інфляцыі і іншых сацыяльна-эканамічных фактараў.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*



В Высшем пожарно-техническом училище МВД Беларуси приведено к присяге молодое пополнение. Освятил это событие отец Иоанн. С приветственным словом выступили начальник училища полковник В.Воробьев, заместитель начальника ГУВПС полковник А.Гурьев, ветераны, родители, курсанты.

Свое мастерство показали лучшие спортсмены училища. Никого не оставило равнодушным выступление участников художественной самодеятельности курсантов А.Пасюка, Н.Бородко, А.Бернадского, Д.Борисова, С.Оленского, Ю.Молотка, В.Потапенко, Д.Деколы.

Перед родителями и гостями были открыты двери музея, лабораторий и классов училища, желающие могли по достоинству оценить прекрасный праздничный обед.

*И. ДЕНИСОВ. Фото автора.*

## З залы суда

**Бытуе такое выслоўе: ад астрогу няма перасцярогу. Няшчасны выпадак, уласная неабачлівасць, а найчасцей — жорсткасць і прага помсты заканчваюцца турмою. Але судовая практыка сведчыць, што за кратамі можа апынуцца і той, хто ступіў на сцяжынку распуснасці. Гісторыя, пра якую мы збіраемся расказаць, пераконвае ў гэтым. З пэўных этычных меркаванняў не будзем называць сапраўдных імёнаў і прозвішчаў нашых "герояў", а прадставім іх чытачам як Віталя і Тамару.**

# Спонсар ад Амура

Жылі яны па суседству, абое — у інтэрнатах горада Валожына. Віталь меў сям'ю. А ў Тамары шчаслівы шлюб не склаўся. На той час яна выхоўвала траіх непаўналетніх дзяцей. Што тут скажаш? Становішча — як у той песні:

Лёс, як віно на палыне,
Але прыйшло выратаванне:
Тваё каханне да мяне
І да цябе маё каханне.

Патаемнае, але затое такое салодкае і палкае каханне неўзабаве завязалася паміж Віталем і Тамарай. Сустракаліся ўпотай. А найчасцей — у цесным пакойчыку інтэрната будаўнікоў, хоць схавацца ад цікаўных чужых вачэй было не так проста. А неўзабаве ім усміхнулася фартуна: жонка Віталя з дзецьмі паехала ў суседні раён да маці. А таму Віталь мог у адкрытую «смаліць халяўкі» — заляцацца да каханкі. Тамары пашанцавала на сябра, ён быў занадта шчодры, з манерамі накшталт каўказскіх. Асыпаў сваю мілую не толькі градам кампліментаў, — не шкадаваў і сваіх зберажэнняў. Адно спатканне прыхарошыў даволі ладным прэзентам, на другое раскашэліўся яшчэ больш. Аднойчы за чарговы «сеанс кахання» ён падарыў сваёй любай два заручальныя пярсцёнкі, залаты ланцужок з падвескай, пярсцёнак з рубінам. Вось дык спонсар ад Амура! Нехта скажа: сапраўдны магнат! Не, ён звычайны рабочы з сярэднім дастаткам. Віталь імкнуўся дагадзіць і ні ў чым не адмаўляць сваёй сяброўцы. У дадатак да гэтага шыкоўнага залатога падарунка сэрцаедка папрасіла прэзентаваць ёй цюбік губной памады, духі маркі «Масква-Парыж». Той, зразумела, не ў сілах быў адмовіць.

Але інтэрнацкая ідылія скончылася, як толькі вярнулася дадому жонка. Настрой у Віталя адразу ўпаў . Тым больш што жонка спахапілася: зніклі ўсе яе залатыя ўпрыгажэнні! Падзялілася сваёй бядою з мужам.

Разгубленая жонка настойвала паведаміць пра прапажу ў міліцыю, а Віталь як мог адгаворваў. І ўсё ж вырашылі пазваніць. Пачалося следства. Высветлілася, што палюбоўніца Тамара спрабавала спачатку прадаць «залатыя дары» ў інтэрнаце жанчынам, але жадаючых набыць упрыгажэнні чамусьці не знайшлося. Сведак куплі-продажу было нямала. Падзеі разгортваліся не на карысць Тамары. Яна некалькі разоў мяняла свае паказанні ў час следства. Хтосьці з псеўдададбрадзеяў падвучыў каханку Віталя ўсе падазрэнні прыняць на сябе. А гэта значыць, прызнацца ў крадзяжы. Тая так і зрабіла, а калі даведалася, што за крадзеж пагражае да сямі гадоў зняволення, перапалохалася і стала пераконваць следства, што залатыя рэчы ёй на самай справе падарыў Віталь. Той, як кажуць, падтуліў хвост, аднак усё роўна працягваў аднекваца.

У час следства ў Тамары здараецца вялікае няшчасце: памірае дзіця. Крывадушнасць Віталя, смерць дачкі, абвінавачванні ў крадзяжы залатых рэчаў — усё гэта глыбока раніць сэрца і прыводзіць жанчыну да адчаю. Тамара бярэ ў рукі сякеру і, выбраўшы момант, калі Віталя з жонкай не было дома, узломлівае дзверы ў іх падвальчыку, крадзе слоікі з кампотам, саленнямі... Міліцыя затрымлівае Тамару з доказамі злачынства.

На судзе Віталь і Тамара зноў сустрэліся. Аднак замест ранейшай лагоднасці цяпер у іх вачах былі варожасць і нянавісць. Палюбоўнік выкручваўся як мог. Хітрыў, кляўся, што невінаваты. Тамара ж пераконвала, што крадзеж агародніны з падвала — гэта адказ на крывадушнасць, фарысейскія выхадкі Віталя, яе тайнага палюбоўніка, які з усяе сілы стараўся ўтаіць свой грэх ад жонкі, ад суда.

За крадзеж кансерваў і кампотаў Тамару пакаралі на год папраўчых работ з утрыманнем 5 працэнтаў заработнай платы ў даход дзяржавы. А які ж далейшы лёс залатых упрыгажэнняў? Ланцужок з падвескай Тамара прадала незнаёмай жанчыне, а тры пярсцёнкі здала ў адзін з камерцыйных магазінаў райцэнтра. Так што жонцы Віталя застаецца цяпер насіць свае дарагія набыткі толькі ў памяці.

*Ірына ПАШКЕВІЧ, супрацоўніца райгазеты. г.Валожын.*

■ Хозяйке на заметку

# ЗАПАСЫ НА ЗИМУ

***Хозяйки нынче ломают голову, как лучше переработать выращенное в саду и на огороде. Хорошо, если есть в наличии капитальный подвал или погреб, где соленья-варенья могут храниться долгие месяцы. А если нет? Не горюйте — есть способы переработки, после которых овощи и при хранении в комнате, на балконе не потеряют своих вкусовых качеств.***

## КОНСЕРВИРОВАННАЯ КВАШЕНАЯ КАПУСТА

Неперекисшую квашеную капусту выкладывают из кадки и тщательно перебирают, удаляют потемневшие листья, а также кусочки кочерыжек и гребня листа. В отдельную кастрюлю собирают рассол — если последнего мало, то готовят дополнительный /по 20 г соли и сахарного песка на литр воды/. В чисто вымытую литровую банку заливают стакан кипящего рассола, затем плотно укладывают капусту до уровня «плечиков». Банки накрывают стерилизованными крышками и ставят в горячую воду на 10—30 минут /чем больше емкость, тем дольше надо стерилизовать/. После этой процедуры банки тотчас укупоривают и кладут набок для охлаждения. В дальнейшем эту капусту можно хранить даже при комнатной температуре.

## СОК ИЗ КАЛИНЫ

Ягоды вымыть, прогреть на пару, выжать сок ручной соковыжималкой. Жом залить водой и кипятить на слабом огне под закрытой крышкой 15 минут. Затем отвар охладить, воду слить — это уже сок, а остаток снова пропустить через соковыжималку. Дальше надо сок, отвар и отжим соединить, добавить сахар /200—300 г на 1 кг купажа/, вскипятить и сразу разлить в прокаленные в духовке бутылки или банки. После укупорки сок может долго храниться.

## ЦУКАТЫ

Овощи или плоды варят в сахарном сиропе — как варенье, в 2—3 приема. После варки сироп через сито сливается, а плоды раскладываются на тарелках. В цукаты они превратятся, когда подсохнут под матерчатой салфеткой или в холодильнике /он сушит, поскольку является испарителем/. На кило плодов вам потребуется кило сахарного песка и стакан воды для приготовления сиропа.

## ВАРЕНЬЕ ИЗ РЯБИНЫ

Собранные ягоды положить в морозилку холодильника, чтобы снять горечь. Затем ягоды опустить в кипящую воду на пару минут, бланшировать, после этого опустить в горячий сироп /из расчета 600 г сахарного песка на килограмм ягод/. Смесь довести до кипения, слить сироп и трехкратно уварить его до готовности /при третьей варке снова добавить ягоды/. Опустить таз или кастрюлю в холодную воду и после остывания разложить варенье по банкам.

## ХАТНІ ЭКРАН

### 8 лістапада, аўторак

**Беларускае тэлебачанне**

13.50. "Анюціны вочкі і барскія ласкі". Маст. фільм.
15.00. "Нов і К"-топ-10.
16.00. "Еўфрасіння Полацкая". Д/ф.
16.30. "Бімбат" на фестывалі "Залатая восень Славуціча".
17.00. Навіны.
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Віцебск).
18.25. Пяць хвілін на жарты.
18.35. Навіны (Бі-бі-сі).
19.10. Эканамікст.
19.20. Мост.
19.50. Эканамічная хваля.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. "Музыка без межаў". Фэст па-нарвежску.
22.10. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
"Раман імператара. Дварцовая хроніка". 1-я серыя.
Кантакт. Пад купалам Сусвету.

**Канал "Астанкіна"**

15.00. Вясёлыя ноткі.
15.30. Чароўны свет, ці Сінема.
16.00. Джэм.
16.20. "Элен і хлопцы". Тэлесерыял.
16.50. Свет сёння.
17.00. Тайны Старой плошчы.
17.30. Загадка СБ.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Л.Ландау.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. Мы. Аўтарская праграма У.Познера.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. З першых рук.
20.50. Песня-94.
21.35. "Аповесць непагашанага Месяца". Маст. фільм.
23.20. У свеце джаза.
23.40. Аўта-шоу.
23.50. Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

15.20. Новая лінія.
16.00. Там-там навіны.
16.15. Свята кожны дзень.
16.25. Тэніс. "Кубак Крамля".
17.25. Ваша права.
17.40. "Востраў надзей". Відэафільм.
18.05. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Ніхто не забыты".
19.45. "Парыж вачамі..." (Францыя).
21.45. Экран крымінальных паведамленняў.
22.20. Аўтаімгненне.
22.30. Рака часу.
22.35. Тэніс. "Кубак Крамля".
23.05. "Яблыні". Маст. фільм (Германія).
0.55. Зоркі гавораць.

### 9 лістапада, серада

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Навіны.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. "Раман імператара. Дварцовая хроніка". 1-я серыя.
9.35. Дайджэст.
9.45. "Маё каханне, мой смутак".
10.45. "Доктар Айбаліт". 3-я серыя.
10.55. "Бімбат".
11.25. "Госця з будучыні". 2-я серыя.
12.30. Гісторыя ДАВТа Беларусі ў асобах.
13.35. "Ідэальнае злачынства". Маст. фільм.
15.10. Відзьма-нявідзьма.
16.20. Вывучаем сваю гісторыю.
16.45. "Бімбат".
17.00. Навіны.
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Гомель).
18.25. Пяць хвілін на жарты.
18.35. Навіны (Бі-бі-сі).
19.10. "Крок". Ток-шоу з удзелам пісьменніка Эдуарда Успенскага.
19.40. Радавод. "Што ні край, то свой звычай".
20.00. Праграма для сям'і.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Міжнародная праграма.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
"Раман імператара. Дварцовая хроніка". 2-я серыя.
Кантакт. Пад купалам Сусвету.
Канцэрт групы "Чайф".

**Канал "Астанкіна"**

6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.50. Навіны.
8.00. "Вайна гобатаў".
8.25. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
9.00. Зорная гадзіна.
9.40. "Амба". Мультфільм.
15.00. Паглядзі, паслухай.
15.20. "Лятаючы дом".
16.00. Сіняя птушка.
16.20. "Элен і хлопцы".
16.50. Свет сёння.
17.00. Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія "Мір".
17.30. Чалавек і закон.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Д.Вертаў.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. "Два дні і ўсё жыццё". Д/ф.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Маналог.
20.50. "Смерць нягодніка" (Францыя).
21.10. Шэсць вечароў з Ю.Нікуліным. Вечар 5-ы.
23.50. Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

7.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Кліп-антракт. М.Раманідзі.
8.30. Гандлёвы дом.
8.45. Дэпеша.
9.15. Здарова жывеш.
9.30. Кіно ў лістападзе.
9.45. "Санта-Барбара".
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Там-там навіны.
15.35. Свята кожны дзень.
15.45. Далёкі Усход.
16.25. Тэніс. "Кубак Крамля".
17.25. Фільм-прэм'ер.
17.40. Гаспадар.
18.10. Калегі.
18.20. Зоркі Амерыкі.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Вінілавыя джунглі.
21.05. "Берыя". Д/ф.
22.20. Аўтаімгненне.
22.30. Рака часу.
22.35. Тэніс. "Кубак Крамля".
23.05. Экран крымінальных паведамленняў.
23.10. Тэатральны фестываль у Эдынбургу.
0.10. Зоркі гавораць.



## 8 канал

**Вторник, 8 ноября**

18.00 Мультпарад-3.
18.40 Студия "Интекс": "Новости".
18.50 БАНТ: "Репортаж", "В гостях у "Супер—Плюс".
19.00 Телесериал "Морена Клара".
19.50 Мультфильм "Том и Джерри".
19.55 "Немецкая волна".
20.25 Шанс-приз.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "Пилигрим".
21.50 Foxy music.
22.50 Короткометражный фильм.

**Среда, 9 ноября**

18.00 Мультфильм "Астерикс и сюрпризы Цезаря" (Франция). 1-я часть.
18.45 СОЛТЭК: "Новости".
19.00 Телесериал "Морена Клара".
19.55 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.05 Немецкая волна.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "Фанклуб".
21.50 Художественный фильм "Крепкий орешек-1".

■ Футбол

## ЗБОРНЫЯ РЫХТУЮЦЦА

Вялікі футбольны дзень чакаецца ў Мінску 16 лістапада. Да нацыянальнай і алімпійскай зборных Беларусі прыедуць каманды Нарвегіі і правядуць тут адборачныя матчы чэмпіянату Еўропы і Алімпіяды-96.

Галоўны трэнер нацыянальнай каманды Сяргей Бароўскі робіць стаўку ў першую чаргу на футбалістаў, якія выступаюць у замежных клубах. Чакаецца, што ў матчы з нарвежцамі выступіць не менш дзесяці "легіянераў". Галоўны трэнер алімпійцаў запрасіў на трэніровачны збор дваццаць ігракоў з розных беларускіх каманд.

## ЛІДЭР ЗАХОЎВАЕ ПЕРАВАГУ

У мінулыя выхадныя дні праведзены матчы пятнаццатага тура чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу. Ключавой у апошнім туры першага круга была гульня ў Віцебску, дзе КІМ прымаў дынамаўцаў Мінска.

Гульня закончылася ўнічыю — 0:0, і кімаўцы захавалі сваю перавагу. У іх 24 ачкі — дзевяць перамог, шэсць нічыіх і ніводнага паражэння, выдатныя суадносіны забітых і прапушчаных мячоў. Дарэчы, у дванаццаці матчах вароты лідэра былі недатыкальныя.

На другім месцы пакуль «Дынама-93", якое ў прайшоўшым туры нанесла паражэнне лідскаму »Абутніку" — 5:1. Чаму пакуль? Справа ў тым, што пазіцыю «дзевяноста трэціх» можа пахіснуць сталічнае «Дынама», якое 10 лістапада праведзе прапушчаны матч з рэчыцкай «Ведрыччу».

А вось вынікі астатніх матчаў заключнага тура першага круга: «Днепр» (Магілёў) — «Гомсельмаш» — 4:2, «Фандок» (Бабруйск) — «Тарпеда» (Магілёў) — 0:3, «Тарпеда» (Мінск) — «Шахцёр» (Салігорск) — 2:2, «Шыннік» (Бабруйск) — «Ведрыч» (Рэчыца) — 1:0, «Маладзечна» — «Лакаматыў» (Віцебск) — 4:0, «Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Брэст) — 1:0.

Вось як выглядае турнірная табліца:

| Г | В | Н | П | М | А | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КІМ | 15 | 9 | 6 | 0 | 19-3 | 24 |
| Дынама-93 | 15 | 9 | 3 | 3 | 32-12 | 21 |
| Дынама Мн | 14 | 8 | 4 | 2 | 33-13 | 20 |
| Тарпеда Мн | 15 | 8 | 3 | 4 | 20-13 | 19 |
| Нёман | 15 | 7 | 5 | 3 | 16-9 | 19 |
| Маладзечна | 15 | 6 | 5 | 4 | 24-15 | 17 |
| Днепр | 15 | 5 | 5 | 5 | 18-17 | 15 |
| Дынама Бр | 15 | 5 | 5 | 5 | 14-13 | 15 |
| Фандок | 15 | 5 | 5 | 5 | 17-18 | 15 |
| Тарпеда Мг | 15 | 4 | 6 | 5 | 14-13 | 14 |
| Абутнік | 15 | 5 | 2 | 8 | 14-21 | 12 |
| Гомсельмаш | 15 | 4 | 3 | 8 | 13-24 | 11 |
| Шахцёр | 15 | 2 | 6 | 7 | 12-20 | 10 |
| Шыннік | 15 | 2 | 6 | 7 | 11-21 | 10 |
| Ведрыч | 14 | 4 | 1 | 9 | 7-21 | 9 |
| Лакаматыў | 15 | 3 | 1 | 11 | 10-40 | 7 |

Каманды развіталіся да вясны будучага года, калі пачнецца другі круг чэмпіянату.

Пайшлі на «канікулы» і каманды другой лігі. Прапушчаны матч старадарожскага «Будаўніка» з мінскай «Атакай-Аурай» закончыўся перамогай старадарожскіх футбалістаў з лікам 2:1. «Будаўнік» набраў 18 ачкоў і знаходзіцца на шостым месцы, а «Атака» на сёмым — 17 ачкоў. Трэці радок турнірнай табліцы займае «Сантанас» з вёскі Самахвалавічы Мінскага раёна — 20 ачкоў.

Слаба прайшлі дыстанцыю першага круга тарпедаўцы Жодзіна, якія набралі 14 ачкоў і займаюць дзевятае месца. Яшчэ больш сціплае турнірнае становішча ў мінскай каманды АФВіС-РШВСМ — 10 ачкоў і передапошні радок у турнірнай табліцы.

Сярод каманд нашай вобласці, якія выступаюць у трэцяй лізе, найбольш паспяхова правяла гульні першага круга барысаўская «Фамальгаут». У падгрупе «А» яна займае другое месца, уступаючы толькі адно ачко мінскай камандзе «Дынама-ЮНІ».

*/Наш кар./*

**Наш адрас:**
**220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".**

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна-эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

Заснавальнік — *Мінскі абласны Савет дэпутатаў. 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

**Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.**



Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
*Тыраж 16000. Індэкс 63923. Зак.№119.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ПЧ 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12